KRYVIČ mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomeninio gyvenimo laikraštis.



# КРЫВІЧ



## МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ

Год 1923

№ 3.

Жнівень.

„KRYVIČ"

# КРЫВІЧ

**МЕСЯЧНІК
ЛІТЭРАТУРЫ, КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ.**

49

**Пад рэдакцыяй В. ЛАСТОЎСКАГА і К. ДУЖ-ДУШЭЎСКАГА.**

**Адрэс рэдакцыі: Kaunas, Vytauto prosp. Nr. 30. (Lietuva).**

Падпіска на поўгада з перасылкай . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Lit. 15 — (1:50 доляра)
Цана нумару паасобна . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Lit. 3 — (0:30 „ )

Рукапісы рэдакцыя ня вертае і пакідае за сабой права пераробак і скарочаньняў.

| 1923 г. | ЖНІВЕНЬ | № 3. |
|---|---|---|



В. ЛАСТОЎСКІ.

* * *

Паэт, ты вольнага Пэгаса
ў прыгожых дум ярмо ўпрагай
і тучны чорназём,
мінуўшчыны радзімай,
у ськівы стройныя складай!
Бо толькі гэта глеба
дасьць нам жаданы агняквет,
якім Крывіцкі геній
счаруе сьвет.
Бо толькі родны чорназём,
цяплом духовым абагрэт,
здалее даць пітомае красы,
прадзіўны квет.

* * *

Л. А.

# Легенды.

## Бяздоннае багацьце.

У Тураве жыў калісь князь Яраслаў. Быў ён багаты і мудры, дык і людзей каля сябе зьбіраў усё разумных ды мудрых.

Раз князь з гасьцямі сваімі паехаў на ўловы біць тураў і дзікіх вепраў. Многа было ўжо набіта ўселякай дзічыны і госьці хацелі прыпыніць лавецтва, але Яраслаў, якраз ў той момант, калі хацеў даць загад трубіць на збор, убачыў аграмаднага старога тура; забыўшы ўтому і гасьцей, пагнаўся ён за ім. Некалькі гартоўных княжых стрэл ўпіліся ўжо ў цела тура, але зьвер з падвойнай сілай уцякаў ад лаўца. Тады князь пачаў паганяць свайго каня, каб насьцігнуць тура. Раптам тур спыніўся і абярнуўся ў старану князя. Конь, з разгону, наскочыў на тура і зваліўся прабіты рагамі, прыціскаючы сабой князя. Яшчэ момант і князь паплаціўся-б жыцьцём на мейсцы. Але на гэту хвіліну падасьпеў загоншчык Ранцэвіч; ён зьняў з сябе сьвітку і накінуў яе на вочы туру, ды хутка, нажом, ўдарыў зьвера ў самае сэрца. Тур нежывы рынуў на зямлю. Князь выкарабкаўся з-пад каня, і, дзякуючы загоншчыку, сказаў каб той прышоў у абоз да князя па нагароду.

Калі загоншчык прышоў у княжы абоз, Яраслаў паставіў перад ім скрынку напоўненую золатам і сказаў:

— Бачыш, колькі тут золата, але жыцьцё даражэй золата; бяры колькі хочаш.

Загоншчык быў чалавек мудры. Ен узяў пасашок, разгарнуў чырванцы так, каб пасашок апёрся аб дно ў скрынцы і сказаў:

— Праўда, князю, тут многа золата, але ўсё-ж такі дно можна дастаць, дык, мабыць, гэтае тваё залатое багацьце ня вечнае; калі небудзь прыйдзе канец яму. Дый золата больш патрэбна князю, як простаму чалавеку. Дай ты мне, княжа, гэткі дар, каб я ў ім дна знайсьці нямог.

Князь задумаўся і кажа:

— Каб я сабраў усё сваё багацьця, то і тады дно яму знойдзеш.

Засьмяяўся загоншчык і кажа:

— Пойдзем, князь, я табе пакажу бяздоннае багацьце.

І выйшаў на двор, узяў лавецкі меч і блізка ўвесь ўсунуў ў зямлю.

Вось, тваё, княжа, багацьця ў якім дна німа: яно ратару больш вартнае чым тыя чырвонцы. Грошы могуць украсьці, а гэтага ніхто ня ўкрадзе.

Засьмяяўся князь, падабалася яму мудрасьць загоншчыка і кажа:

— Праўду кажаш, дам табе зямлі па дзесятае пакаленьне.

І, ўвайшоўшы ў шатро, напісаў князь Яраслаў дарчую грамату мудраму загоншчыку Ранцэвічу на ўсю аколіцу Вялемічы.

І дагэтуль, у Мозырскім павеце, ў вёсцы Вялемічы, жывуць Ранцэвічы і, ў вялікай пашане, ў цыновай трубцы, пераховываюць, з роду ў род, дарчую грамату князя Яраслава, а паказуючы яе апавядаюць легенду аб сваім мудрым прашчуру.

## Векавечная мяжа.

Жыў калісь ў нашай зямлі князь, Радар, які сьпярша кавалём быў, а ...сьля-ж яго выбралі ў князі. А ў ляцкай старане жыў кароль Лях, ў якога ...ыў зьмей Крагавей. Панадзіўся зьмей—Крагавей ў нашу старану хадзіць;— ...рыдзе: людзей паядае, а што ня зьесьць пабівае. Думаў-думаў Радар, што ...біць? І пачаў ён лемяшы каваць, ды дубы ламаць: здумаў грамадную саху ...рабіць. Кожды лемях па пяцьсот пудоў, а паліца са старога дуба, а вобжы ... найбольшых сосан, якія былі ў пушчы. Зрабіўшы саху занёс Радар ў поля, ...алажыў яе пад лесам, а сам—давай камяні цягаць ды вежу мураваць. За...ураваўся ў камяннай вежы, запёрся за трое зялезных дзьвярэй, а дружыну ...хаваў пры сасе. Прыбягае зьмей, а Радар яму:

— Стой, змей, ня чапай людзей, а вось, калі ты пралізьнеш гэтых трое ...дзьвярэй, то я табе сам сяду на язык і ты мяне зьясі,—тады рабі што хочаш ... маей старане.

— Добра,—кажа зьмей.

І, ён,—раз лізнуў, другі раз лізнуў і пралізаў трое дзьвярэй. Тады Ра...дар цапель! ды за язык яго кляшчамі, ды давай гваздіць яго па галаве сто...пудовым молатам, а дружына чым барджэй ўпрагаць зьмея ў саху.

Зьмей вярцеўся, круціўся, а ўрэшце скарыўся:

— Давай,—кажа,—будзем мірыцца!

— Добра!—кажа Радар,—давай мірыцца! А каб нам на заўсёды ведаць ...дзе чыё, то валачы саху, правядзем граніцу.

І, вось, аралі яны лес, аралі луг, аралі поле і дааралися да вялікай ...ракі; тут Радар крыкнуў зьмею, кіруючы яго ў ваду:—Гайда, бух!—знача ...каб ён скакаў ў раку.

Зьмей скочыў з прыгорка, ледзь не ўтапіўся, але сахі пазбыўся: яна ...сарвалася з хамута і станула рагачамі ўверх. Рад зьмей, што жыў астаўся, ...пыліць не азіраючыся аж дамоў, ў нару пад гарой дзе жыў князь Лях. Як ...убачыў свайго князя зьмей, то, яшчэ ў страху тым, здалёк, крычыць яму:— „Помні, ляша—па Бух наша! і як толькі дапаў сваей нары, то і апрогся.

З гэных часаў на векі-вечныя тая разора, якую празвалі Бухам ці Бугам, сталася граніцай паміж нашым і ляшскім краям. А вежа, якую Бу...даваў тады Радар і дагэтуль стаіць ў мясцовасьці Камянцом званай. Доўга і тыя зялезныя лемяхі тырчэлі з ракі, і, цяпер, кажуць ляжаць там-жа на дне.

## Князь Барыс і чорт.

Князь Барыс мураваў ў Полацку царкву і,—ну, ведама, гэткая будыніна!— запазычыўся і задаўжаўся кругом. Німа ўжо больш дзе пазычаць! Дык па...шоў, ўрэшце, да чорта і папрасіў ў яго грошы, кажучы, што на вайну па...трэбны. На нішто добрае чорт, ведама, ня дасьць, але як на вайну—пазычыў.

Мінуў год, другі дзясяты, Барыс ня аддае чорту грошы. Здакучыла чорту хадзіць; ўрэшце, ідзе ён да свайго старшага, гэтак сама чорта, ра...дзіцца, што рабіць?

— Што-ж,—кажа старшы чорт,—дагэтуль ён хітрэй за цябе: бо ад чорта грошы ўзяў ды Богу аддаў і ніяк ты з яго не спагоніш! Хіба ён сам згодзіцца на загадкі: ты яму загадай тры загадкі, калі ён адгадае, дык яго грошы; а ня адгадае—бяры яго сюды, то мы тут яму пакажам!

Пашоў чорт да князя пад вакно ўгаварыўся аб загадкі, ўсё як яму старшы казаў.

— Добра,—кажа князь, загадывай!

— Што ў двух?—загадывае чорт.

— Дарога карацей,—адказвае князь.

— Што ў трох?

— Малаціць лягчэй.

— Ў чатырох?—пытае чорт?

— Ці чэрці-б ў цябе грошы прасілі каб ўсе чатырком малацілі!

Тут чорт і ўцёк, бо князь згадаў усе яго загадкі.

---

Вальдэмар Бонзэльс.

# Аб Паньні, Эльясу і зьмяі.

Калі прыехаў я ў горад Каннанор блогаслаўленай Малабарскай правінцыі, індус Рамені павёў мяне да дому, які прапанаваў наняць у яго на час маей бытнасьці ў горадзе. Дом пабудаваны быў паводле пляну ўсіх эўропэйскіх дамоў у Індыі. Аднопаверхі, са стромкім навісаючым капяжом і шырокай паладой-вэрандай ўдоуж ўсяго фронту. Мы, агульным высілкам прабіўшыся праз гушчавіну заросшага саду, падышлі да дому. Рамені сказаў: „Глянь, на маю мілейшую ўласнасьць на зямлі. Я сьцярог і аберагаў яго. Ужо сем гадоў сюдой не праходзіла нага чалавечая. Апошні жыў тут сагіб *) Джон Дзітрэй, слаўны афіцэр, англіец,—яго ўсе салдаты слухалі. Ен ўвесь час быў шчасьлівы пад гэтым дахам і жыў-бы тут дагэтуль, каб урад ня выслаў яго разам с салдатамі ў другое месца.

Я агледзіў вялікія, мала што не саўсім парожнія пакоі, каторыя парасьлі буйнай расьціннасьцю і былі заселяны рознаякімі жывёламі, рознаякасьць каторых аказалася вышэй ўсякага майго спадзяваньня.

„Усе гэты жывёлкі няшкодны“ уважліва сказаў Рамені, „большасьць з іх, напэўна, высяліцца, бо яны ня любяць людзкога суседзтва. Але ты, сагіб, не адзін—ты прывёз з сабой сабаку акромя таго слугу і кухара, і душа твая ня будзе тужыць ў адзіноце. Я табе дам курэй, калі захочаш“.

Рамені гаварыў па англіцку так, што ў мяне пад коркавым клабуком дыбіліся валасы.

„Ты-ж, мабыць, таксама англіец“. сказаў ён кончыўшы свой доўгі хвалаcьпеў афіцэру, сэру Джону Дзітрэю.

Я сказаў яму, што я немец, і ён пасьпяшыў уцешыць мяне.

„Я ніколі ня чуваў аб такой краінё“, сказаў ён на закончаньне, „але грамадзяне яе слывуць шчодрымі людзмі і, трэба думаць, яна багацей за брытанскае каралеўства“.

Я адразу зразумеў яго і спытаў сколькі ён хоча за наймо сваей ўласнасьці. У адповедзь на гэта ён так горача загаварыў аб пабочных рэчах, што чуйнасьць мая яшчэ ўзмаглася. Урэшце мне ўдалося выклікаць яго на шчырасьць: з таемным валваванемся ён стаў вылічаць, сколькі ён страт меў

---

*) пан.

за гэтых сем гадоў, калі ў яго ня было кватаранца. Я моўчкі ўзіраўся на арміі мурашак, мастацка паднорыўшых памосьціны і сьцены ў прасэссе будаваньня сабе харомаў. Я ня буду перашкаджаць вам, падумаў я, пад маім ўладаньнем ваша царства дасьцігне небывалага розквіту, я буду вашым мудрым ўладаром і шчырым прыяцелям. Ранічнае сонца сьвяціла ў акно праз пальмовы гушчар. Маё сэрца ізноў ахлынула невымоўнае пачуцьцё шчасьця, якое ахапіўшы было мяне, калі я ступіў на зямлю Індыі і першы раз ўдыхнуў водар, цяпло і сьвятло гэтай краіны.

„Ня бойся, сагіб“, сказаў Рамені і пачаў лічыць на сваіх сутаражна растапыраных пальцах, увесь трасучыся ад сумніву, надзеі і чаканьня. Я сказаў, што нічога ня баюся, і ён дзесяты раз падняў руку, каб зноў справа налева пералічыць сваё цьмяныя, тушчыя пальцы. Пасьля раптам забыўся аб ўсім і пасьпешна загаварыў аб дарагоўлі і дрэнным ураджаю рыжу. Кожды кулі*) пасьведчыць табе гэта“ ўскрыкнуў ён, „хочаш я паклічу?“

„Сколькі ты возьмеш?“ сурова спытаў я яго. „Я чуў аб адным доме няўзьбярэжжы. Там кажуць, жыў раней калектар**), і урад. можа аднаняць яго за невялікую плату“.

Рамені зрабіў над сабой вялікі высілак і сказаў, што дом яго каштуе сто рупій***) у год,—за мінулыя-ж сем гадоў ён хацеў-бы мне залічыць толькі чацьвертую часьць гэтай сумы, з тым аднак варункам каб я заплаціў яму адразу за тры гады наперад.

Калі я кіўнуў галавой, ён памярцьвеў на абліччы.

„Сагіб“, прастагнаў ён, „ты сьмяесься хіба з тваго вернага слугі. Я, праўда, вызначыў лішне вялікую плату. Забудзем гэны сем няшчасных гадоў. Я пагоджуся з нябеснай карай, тым больш, што яна ўжо мінула. — Калі ты запраўды заплоціш мне за тры гады наперад, то я на ўсё жыцьцё буду тваім верным слугой“.

Мне не прышлося каяцца ў сваей пасьпешнай згодзе, і хоць я ўсяго некалькі месяцаў прабыў ў Каннаноры, але, мая ахвярнасьць была шчодра адплачана: Рамені чэсна стараўся зглядзіць ўспамін аб тым, як я яго прысароміў. Бязмала кожды дзень ён пасылаў мне яйкі, фрукты, рыбу і дзічыну і не пярэчыў ніводнаму майму жаданьню датычна паправак і перароб.ак у доме і садзе. Толькі калі праз некалькі тыдняў ён даведаўся, што я трымаю ў шкляннай скрынцы жывую кобру ****), ён аддаліўся ад мяне і не пераступаў парогу майго дому і не датыкаўся да маей рукі. Ен унікаў мяне і—я пэвен—ня бяз горкага чову, ня гэтулькі са страху, як дзеля таго, што ніяк ня мог пагодзіць са сваімі пераконаньнямі тое, што я трымаю ў няволі багоміцу і цераз шкло назіраю, што яна робіць. Але затое наша дружба да гэтага адкрыцьця належыць да прыемнейшых успамінаў маей бытнасьці ў Індыі.

Калі на калёсах, запрэжаных валамі, прывязьлі з прыстані маю рухомасьць, я, пры дамамозе майго слугі Паньні і кухара, пачаў ладзіцца на начлег ў адным з больш выгодна распалажаных пакояў. Паньня безупынна даперасьцярагаў мяне на кождым кроку, але ўжо у той час ён знаў мяне davолі добра, каб разумець, што яго страхі найчасьцей, зыходзяцца з тым на чым я апіраю свае надзеі. Кухар, жыхар Палуднёва-Марацкіх гор, які

* Кулі—посьбіт, насільшчык. Яшчэ у 1890-х гадах па беларускіх гарадах, пад ратушамі, стаялі такія носьбіты перапаясаныя вяроўкамі, называлі іх у нас—„драгілямі“.
**) Англіцкі начальнік краю.
***) Рупія—сярэбраная манэта, блізка роўная расійскаму даунейшаму рублю.
****) Кобра—вельмі ядавітая зьмяя цёплых краёў.

ўжо здолеў прывыкнуць у Бомбэі да эўропэйцаў, даўно ўжо кінуў пярэчыць злому пачатку ва мне. Зрэшта, ён наагул адносіўся да мяне безразрожліва: моўчкі, са спакойнасьцю стоіка выпаўняў свае абавязкі; абкрадаў мяне, дзе толькі мог, і, томна спусьціўшы павекі, чакаў маей пагібелі, каторую прарочыў мне кожды раз, калі я яго лавіў на якімколечы праступку. Паміма ўсяго я заўсёды чуў прыхільнасьць да гэтага упорнага і, па свойму гордага чалавека, які ня мог прымусіць сябе скарыцца перад эўропэйцам, і дзеля любові да бацькаўшчыны хаваў ў душы ненавісьць да ўсіх чужаземцаў. Раўняючы з паслушнай пакорнасьцю Паньні, выцякаушай, зрэшта, зусім ня з нізкіх пачуваньняў, а толькі з дзіцячай пашаны да чужаземнага блеску, маўклівая упорлівасьць гэтага чалавека выклікала да сябе сваеаблічную пашану. Я назваў яго Башой, таму што ніяк ня мог запамятаць яго імя. Зрэшта яго ніхто ня мог запамятаць.

Калі я вышаў на паладу, хочучы пераканацца, што ў доме запраўды німа ніводнага акна, Паньня сядзеў на скрынцы с кнігамі і курыў, разаслаўшы на каленях мой гамак.

„Ен увесь падзерты", спавесьціў ён, не падымаючыся з месца і не выказуючы пры маім прыбліжэньні, як гэта рабіў ён раней, асаблівага парыву да работы. „Гэта таму, сагіб, што ты гамаком ловіш рыбу ў рацэ".

„То была слаўная думка", спрабаваў я апраўдывацца. Але Паньня адказаў: „Ты-ж ўсё роўна нічога не злавіў".

Я агледзіў памост, ўсюды падноранны мурашкамі: камянныя пліты і дошкі блізка ўсе віхталіся або апушчаліся глыбока ў зямлю, калі на іх спупала нага, руйнуючы Садому і Гамору мурашнага народу.

„Калі ты хочаш пабачыць, што робяць гэтыя жывёлы" насьмешліва сказаў Паньня, ты не павінен іх трывожыць. „Зрэшта", дадаў ён „у доме пацукі, а за брамамі Каннанора чума".

„То трэба завясьці катоў", вырашыў я. „Схадзі заўтра ў горад і купі некалькі штук".

Паньня літасьціва глянуў на мяне: „Хто-ж купляе катоў?" спытаў ён. „Яны і так усюды бегаюць. У гэтым доме, таксама, мабыць, ёсьць каты". Ен меў на мысьлі мушкацістых катоў,—дробны гатунак, якіх я часта страчаў ў Малабары і каторыя гнездзяцца блізка ва ўсіх старых будоўлях. Дзеля гэтага я пастанавіў пачакаць. Але трэба быць асьцярожным: пацукі разносяць чуму, а страшны мор ўсё яшчэ ня спыняўся, хоць час дажджоў даўно ўжо мінуў. Найчасьцей чума сьціхае разам з апошнім дождажам, ў пачатку індыйскай вясны: разьвіцьцю яе бактэрый спрыяе толькі вогкасьць. І пасьля пэрыоду ўпалаў, с першым-жа дожджам, яна пачынае бушаваць нанова.

Пераказ маей размовы з Паньнёй можа даць, непраўдзівы абраз маіх адносін да яго і наагул адносін эўрапэйцаў да ніжэйшых станаў Індыі. Безпярэчна, што я—і Паньні і другім маім слугам даваў многа асабістай свабоды; і даючы ў ахвяру часьць свайго аўтарытэту і нават самаістасьці, я шчодрую адплату меў ў тым, што заўсёды цаніў значна вышэй: свабоднае выяўленьне чалавечай асобы. Магчымасьць выкарыстаць чалавека ў сваіх мэтах цікавіць мяне менш за ўсё, бо ўсякая пакорнасьць неўнікнёна зьвязана с няшчырасьцю. Стасунак англічанаў да індусаў прымушае апошніх завірацца ў сабе і прыгнятае іх запраўдную істоту, хоць, ведама, я павінен прызнаць, што гэткі стасунак неўнікнёна патрэбен дзеля панаваньня над краем. Але я прыехаў у Індыю не таму каб над ёй панаваць.

Зрэшта паміж мной і Паньнёй бывалі бурныя сцэны ў змаганьні за аўтарытэт. Зазвычай яны канчаліся тым, што я біў гэтага раба. Аднача маё біцьцё і яго паражэньне вельмі часта не былі паміж сабой ў безпасярэднай залежнасьці: найчасьцей ён здаваўся перад дотыкам маіх рук да яго, а ў горшым здарэньні даставалася толькі яго турбану або напамаджанаму хахлу. Не глядзя на гэта ён кожды раз валіўся на памост, качаўся з аднаго кута пакою ў другі і, з плачам, горка наракаў на маю няўдзячнасьць і на сумныя вынікі ягонай для мяне самапасьвяты. Але яшчэ да наступленьня вечара ён старэнна клапоціўся аб тым, каб сьвядомасьць маей віны перад ім не пазбавіла мяне начнога супакою.

„Сагіб", казаў ён і станавіўся перадамной, просты як сьвечка, з абліччам выражаючым абражанаю гордасьць і чалавечую годнасьць, зашто маё сэрца перапаўнялася шчырай да яго ўдзячнасьцю. Сам ён, відавочна, так і ня прыкмеў, каму ён павінен быў быць ўдзячан за тое і другое. „Сагіб, як гэта мог ты так запамятацца?" На яго абліччы адбіваўся такі шчыры смутак, што я, запраўды, ня мог яму ня верыць. Я пачынаў скромна тлумачыць яму яго пагрэшнасьці, але ў гэтым здарэньні ён аказываўся не даволі бeглым ў англіцкай мове, каб зразумець мяне.

„Ты яшчэ ня многа навучыўся ў Індастане", заўважаў ён ўрэшце з сумнай мінай, і мы абодвы былі здаволены, што маглі перайсьці да пытаньня, якое зазвычай аднаўляла нашы прыязныя адносіны. Пасьля гэтага наступаў пэрыод безхмарлівага сумеснага пажыцьця, калі самапасьвята Паньні дахадзіла нават да таго, што ён падаваў мне на стол віскі ў неразведзенай постаці, і дзеля гэтага я меў магчымасьць акуратна сьцвердзіць, сколькі ён перад тым адпіваў у мяне з бутэлькі.

Ужо ішоў дзясяты месяц маей бытнасьці ў Індыі. Акром Паньні і Башы маім верным спадарожнікам быў слаўны сабака. Звалі яго Эльясам, яму пашоў усяго другі год, так што на маю долю прыпала шчасьця самому кіраваць яго выхаваньнем і сьцежыць за яго развіцьцем. Нажаль, справа з сабакамі стаіць так, што маючы перад сабой двохмесячнае шчанё, вельмі цяжка менeй болей судзіць як аб яго паходжаньні, так і аб далейшым магчымым развіцьці. Я заўсёды пачуваю асаблівую склоннасьць да людзей, якія ва ўсіх праявах і жывых істотах умеюць вынайсьці лепшае і датуль прыпісываюць другім свае ўласныя добрыя староны, пакуль самі не пераканаюцца ў адваротным. Ідучы тропам гэтых людзей, я бачыў у Эльясе прыклад слаўнейшага сабакі. Пералічаючы яго добрыя староны мне не хацелася-б падробна затрымлівацца на яго зьнешнасьці, тым больш, што саўсім нямагчыма было правідзець, ці ня зьменіцца яна ў яго з бегам часу. Безпярэчна што ў яго здаровы апэтыт і здаровы сон. Ён вельмі асьцярожны і ніколі не парываецца ў небаспечныя авантуры, ня кідаецца на чужых і надзвычай памяркоўны ў сваей чуйнасьці; мне гэта прыемна таму, што я часта бываю захоплен цяжкой умысловай працай і сабачае брэханьне магло-б мне перашкаджаць. Прыязьлівасьць яго так агромна, што ён пашырае яе на ўсіх стыкаючыхся з ім людзей; адкінуўшы эгоістычныя пачуваньні, трэба ў асаблівасьці падкрэсьліць незвычайную цьвёрдасьць яго волі, становячую аснову ўсякай выдатнай натуры. Ні пагрозамі, ні абецаньнямі няможна прымусіць Эльяса выпоўніць чыё небудзь—чужое ці маё—жаданьне. Ён ня брудзіць ні саду, ні вуліцы і са-стараны свайго пракорму звальняе нас ад ўсякай патрэбы клапаціцца аб падачы яму ежы.

Мне дагэтуль не ўдалося, нажаль, устанавіць добрыя адносіны паміж ім і Паньнёй. Паводле ўсякай праўдападобнасьці, Паньнёй, як сынам Усходу,

кіруюць яго традыцыйныя выбражэньні аб істоце сабачай натуры,—ў кождым здарэньні ён выяўляе поўнае нязнаньне гатункаў.

„Сагіб, што гэта за сьвіньню ты прывалок у дом?“ ўскрыкнуў ён, калі я прывёў толькі што купленага мной Эльяса.

„Ен увесь ў порсьці, і вяроўка ў яго на шыі“, адказаў я, „пачакай, вось я яго вымыю“.

„Ты хочаш мыць яго?“ спытаў Паньня і, вытарашчыўшы вочы, глядзеў на мяне і на Эльяса.

„Гэта слаўны сабака, ён акажа нам вялікія ўслугі“, запэўняў я, крыху разчараваны прыёмам Паньні, задумлённа пазіраючы на Эльяса, каторы прыступам браў парог і сваім бязпомачным парывам выяўляў цудоўнае відовішча нявіннай энэргіі.

Калі ў маладой душыЭльяса ўзышлі ня ўсе зярняты, якія я ў ей сеяў, то ў гэтым, безсумлеўна, вінен Паньня, які так і не перамог свайго пагардлівага стасунку да выхаванца. На мой погляд пэдагогічны ўплыў на маладую душу можа мець вынік толькі пры сумесным старэньні ўсіх жыхароў дому. Пакуль Эльяс ня мае абаронцы ў асобе Паньні, а Паньня бачыць у Эльясе крыніцу ўсіх бед і зла, да тэй пары ні с таго ні з другога я ня буду мець тэй прыемнасьці, на якую я разлічаў.

* *
*

Наступіў вечар нашага першага дня у Каннаноры. Паньня шукаючы сьвечак у скрынях, стараючыся прыпарадкаваць, калмашыў ўсё ўверх дном. Сетка ад машкары да маей пасьцелі аказалася на самым дне вялікай скрыні: перад ад'ездам Паньня спакаваў яе, ведама, перш за ўсё закапаў яе пад ўсімі рэчамі.

Паньня даўно ўжо спаў, а я ўсё яшчэ сядзеў на паладзе майго новага дому, чакаючы месяца і ахалоды. З нярухомай завесы дрэў, кустоў і расьцінаў саду даходзіла цяжкое тхненье апьяняючых водараў. Ўсё красавала і ў мяне ўлівалася палючая паўната жыцьця, стараючыся знайсьці шлях к маей крыві. Магутны, нямы парыў да пышнага разросту запаляў паветра, якое разлягалася ад сквірчэньня цыкадаў. Было так ціха, што полымя маей сьвечкі ня мігала, а толькі злягка калыхалася, бытцам ад цяжасьці насычанага паветра. Знекуль-сь здалёк, з пальмовага гушчару, далятаді згукі дутых інструмантаў, якія зьліваліся аднастайным мэталічным бразгатаньнем. То ігралі недзе ў падворку пагады. Праводзіўшае музыку пеяньне гаварыла аб ўсё ўзрастаючым апьяненьні аўтарнікаў.

Я сплюснуў вочы, і музыка навеяла на мяне ўспаміны ранных дзіцячых лет. Мне ўспомнілася як, аднойчы, дзіўныя, незнаемыя згукі спакусілі мяне выбегчы з бацькаўскага саду на біты гасьцінец. Згукі чуліся здалёку. Забыўшыся аб забароне, я пабег туды, ў сонечнае сьвятло і пакінуў фортку сада адчыненай. Перад селянскай хатай у кругу белагаловых селянскіх дзяцей я ўбачыў пад дрэвам двох высокіх сумных мужчынаў, з чорнымі барадамі, ў доўгіх сьвітках. Яны дулі ў вялікія шэрыя мяхі і дабывалі з іх тую крыклівую музыку, якая дала маей дзіцячай душы першае вялікае перажываньне. Я добра памятаю, што ад дзіўнага валваваньня крыві я павінен быў абаперціся, каб не зваліцца. Цяпер мне зразумела, што тады акурат першы раз прахапілася ў маей душы пачуцьцё хваравітай трывогі, што тады першы раз мяне адмеціў спогляд Долі. І дагэтуль жаданьня душы маей, бытцам за-

чараваньня надзеяй на збаўленьне, сьцежаць за гэнымі немаль зьверачымі жаласнымі стогнамі, поўнымі няўтульнай магнасьці. Яны змушаюць мяне мяняць роднае і знаёмае на чужое і невядомае, дом—на вуліцу, бацькаўшчыну —на ўвесь сьвет.—Калі я адкрыў вочы на медзянай ручцы падсьвечніка сядзеў вялікі руды начны матыль і пужліва і бязрадна глядзеў на ня звычнае для яго сьвятло. Крыху пагадзіўшы ён пачаў памалу рухаць крыльцамі, і вочы яго, поўныя страху і нярухомай цемні, заіскрыліся поблескам сьвятарнага полымьмя. Паветра лёгка падняло яго крэпкія крыльцы—тое самае паветра, якое так цяжка ўхадзіла ў мае грудзі і душыла іх тупым цяжарам. Толькі цяпер я заўважыў, што ўся палада ажыла: да мяне ў госьці прыбыло цэлае крылатае племя начных бадзягаў. Усе яны нейкім таемным спосабам пранікалі цераз зялёную сьцяну, акаляўшую мяне і мой дом. Апозадзь яе, мабыць, ўзышоў месік, дзелятаго што я ясна разрожніваў цяпер у цёплай жывой сьцяне сьветлыя і цёмныя плямы, арнаманты пальмавых вeяраў і аграмадныя абрысы бананавых лістоў, каторыя ўздымаліся, бытцам булавы сьпячых волатаў, ці зьвісалі бязпомачна ўніз, як разтурзаныя скуры зьвяроў. Неба я ня бачыў. Я згасіў сьвечку, і мяне бязгучна агарнуў цьмяны, магічны зьмерк, як бытцам сьвет быў аддзелены ад сьвятла зялёным шклянным морам.

* * *

З усяго, што дадзена чалавеку, самае прыгожае—яго мысьлі. І зроджаныя ноччу, ў імкненьні сваім да непрамінаючага, яны ачунаюць начной парой, бытцам будзячыся ў цемнаце, як ад таемнага страху, да ўдвомленай чыннасьці. Ім німа перапонаў, ім адкрыта і мінуўшчына і будучына, яны пранікаюць ў тайны зьнікшых пакаленьняў, ў чарачкі кветак і ў алькову каханцаў. Дробязі будняў, якімі яны бываюць заняты, не пазбаўляюць іх натхнённай сілы і здольнасьці пазнаць істоту Бога. Іх панаваньне ў бязмежнасьці, іх падсьвядомая мэта ў вечнасьці. Чым яны сільнейшыя, тым больш імкнуцца да парадку, нязьменнаму спадарожніку пазнаньня, іх назначэньне на зямлі—вынайсьці сувязь паміж вялікімі мысьліцелямі мінуўшчыны і цяперашчыны.

Суздрам аддаўшыся сваім мысьлям, я, раптам, пачуў з дому дзіўныя згукі, то бытцам шэлест і стук, то шэлест па сьценах, то лёгкі трэск столі. Час ад часу я разрожніваў галасы стварэньняў,—дзіўна жаласьлівыя стогны змаганьня ці то каханьня. Трудна было разрожніць, ці гэты зыкі даходзілі знутры, ці знязьне; небавам я ўзноў засьвятліў сьвечку, каб выхлынуць з бязформнага спуду ночнай цемры. Калі я зьбіраўся ісьці спаць, месік ўжо выплыў. Мне захацелася зыйсьці ў асьветлены сад, але незнаёмы, даўно закінуты чалавекам гушчар таіў ў сабе лішне многа небасьпечнасьцяў.

Ў праходзе, на памосьце, на пальмовай маце спаў Паньня; храпеньня яго супакоіла мяне, як адзіны родны голас ў гэтай пустэльні. Здалёк, у адны з адчыненых дзьвярэй ніжніх пакояў, бязгучна прасмыгнуў нечыйсь невысокі цень. Я хацеў сьпярша пайсьці за ім, але ў той самы час адмовіўся ад гэтай мысьлі. Калі я ўвайшоў ў пакой, на маей пасьцелі ляжаў Эльяс.

Дрэўляныя рамы ў вокнах часьцю згнілі, часьцю былі паламаны; шкла саўсім ня было. Тут такжа жывая сьцяна закрывала від ў сад і загараджвала доступ сьвежаму паветру. Апьяняючая вохнасьць кветак ліла атрутную соладзь, водары здаваліся мне цяжкімі, датыкальнымі,—аглушала голаснае пеяньне цыкадаў ў месячным сьвятле.

Я агледзіў свой рэвольвар, хоць і ведаў, што ён ў парадку, і адсунуў пасьцель далей ад акна. Мне вельмі нехацелася будзіць Эльяса,—я ведаў

што гэта яго заўсёды глыбока абражае, а ў гэту трывожную ноч ня гожа было сварыцца з адзіным верным прыяцелям. Але ён не прачнуўся, толькі вуркнуў сярдзіта і далей спаў на памосьце. Дзеля таго што сьвечка прынаджвала лішне многа машкары я згасіў яе і ляжаў ў зеленаватым зьмерку пад мусьліновай сеткай стараючыся заснуць.

Сызнешныя згукі станавіліся з кождым момантам ўсё галасьнейшымі і запальчыўшымі; паднечаньне нявідомых жывёлаў пераліваласе ў маю кроў, і я пачуваў, што ўжо блізак той міг, калі трэба будзе адмовіцца ад апошняй надзеі на сон. Мае мысьлі абярнуліся да цэлага раду пераробак і перамен, якія трэба зрабіць ў гэтым доме, каб прыспасобіць яго да жыцьця. У мяне зьявілася пачуцьцё прыкрасьці,—як заўсёды, калі пад ўплывам хвілёвай патрэбнасьці будныя клопаты выціскаюць з душы прыгожыя гарманічныя мысьлі. Але памалу сьвядомасьць мая перастала рэагаваць на тое, што старалася прабіцца ў яе; абрысы акружаючых рэчэй зацягнуліся дымкай. Счыніўшы павекі, я яшчэ няясна пачуў, бытцам ў пакоі стала сьвятлей, і пеяньне цыкадаў разцяклося ў душнае, гнятучае мора паветра, па якім плыло маё млоснае цела. Я заснуў як пад ўплывам опіумнай пьянасьці.

Мяне разбудзіў нечый мяккі штаўчок; я застыг нярухома ў тэй-жа позе, ў якой праснуўся, і ўрэшце, спазнаў Эльяса які забраўся да мяне разам з сеткай ад машкары. Каб страшны голскат ў маім пакою ня быў крайчэйшы ад майго гневу, я, напэўна, паказаў-бы свайму бязвіннаму сабацы новы спосаб палёту ў паветры. Але я інстыктыўна пачуў, што Эльяса мог панукнуць да гэтага толькі панічны страх,—ён дрыжэў ўсім целам, і піск яго быў повен сьмяротнага спуду. Я даў сабацы спакой, прыгарнуў яго да сябе і пачаў дашукібацца прычыны характэрнага голскату напаўняўшага маю спальню.

Было блізка зусім сьветла: месяць падняўся на гэтулькі высока, што яго посьвет прабіваўся ў дом праз пальмовы гушчар. Спачатку, плямы ад сьвятла на памосьце і сьветлыя сьценявыя паясы ў паветры перашкаджалі мне разабрацца, і толькі памалу я разрожніў разьяранае стада вялікіх пацукоў, якія сабраліся каля сьцяны ў адным куце пакою, рыхтуючыся да нападу. У супроцьлеглым куце згуртавалася сямья катоў, маленькіх доўгапоўсьцістых зьвяркоў з кіпцямі. Пасярэдзіне, паміж варожымі абозамі, ляжалі забітыя пацукі, а некалькі раненых ледзь поўзалі з жаласным піскам, пакідаючы за сабой крывавыя сьляды. Было ясна, што каты—акром кацянят я налічыў іх чатыры ці пяць штук,—былі ў вялікай небасьпецы і ахоплены вялікім страхам. Яны распачна змагаліся з перавышаўшым іх сілы ворагам. У іх грозным крыку і мяўканьні было штось наводзячае перапалох навет на больш дужога ворага, а рухі іх напаміналі павароты разьюшанай пантэры. Відаць паміж абодвымі старонамі ў гэтым доме панавала старая няпрыязьнь, якая ў гэту ноч—мабыць ужо ня першы раз—давяла да крывавай сталокі. Можа перш было іначы,—можа перш тут неабмежанае панаваньне мела кацячае племя і тыранічна гнятло пацукоў, пакуль тыя не дайшлі базпярэчнай перавагі, якая цяпер ва мне не выклікала ніякага сумніву.

Пацукі пасуваліся павольна, выдаючы агідныя згукі крывавай ненавісьці. Чароўнае асьвятленьне і блізка пустыя пакоі з заслоненымі цемню кутамі выварачвалі маё разуменьне аб велічыне і абшары: мне здавалася бытцам рыхтуюцца да бітвы аграмадзістыя чорныя пачвары, бытцам я сам меншы за іх і стаю недзе на гарэ.

Калі першы—як мне здалося, стары, практычны кот—кінуўся доўгім і плоскім скокам на абарону, мяне спужала і ўразіла дзікасьць яго рухаў. Кот разлічаў ў змаганьні ня гэтулькі на свае зубы сколькі на кіпці, якімі ён ару-

даваў з задзіўляючым спрытам і забойчай пэўнасьцю. Калі ён скочыў ў самы густы натоўп пацукоў, яны раздаліся, і толькі адзін пацук, ўдараны яго лапай, з піскам зваліўся побач яго. Але кот не дабіваў яго і наагул не звярнуў ніякай на яго ўвагі. Яго вочы, ярка пылаўшыя над самым памостам, былі зорка ўпераны на насуваючагася ворага. Пацукі набліжаліся памалу, з агідным піскам, ў якім чуваць было і сьмяротны страх і разьяраны шал. Новы скок ката ў сярэдзіну іх ўжо ня меў таго ўплыву, як першы. Трапіўшый на гэты раз пад яго лапу пацук, ўчапіўся зубамі за яго вусну, непрытомны з болю, кот з шалёнай злосьцю кідаўся з стараны ў старану, высока скакаў і качаўся па памосьце, а пацук ўвесь зранены і абцякаючы крывёй ўсё яшчэ вісеў ў яго на вусне і валачыўся за ім. Ледзь дыхаючы ад жаху, я ўбачыў, што страшэнныя, паплечнікі першай ахвяры з усіх старон ўчапілася ў зьнемагаўшага ката; ў гэтым часе ад сьцяны аддзялілася другая група пацукоў ў кірунку да катоў, сьціснуўшыхся ў куце. Пацукі плылі, цесна, стуліўшыся адзін да аднаго, павольнай паўзучай ценьню, і непрытомны крык падыхаючага ката пасярод пакою праводзіў іх паход, бытцам страшэнная вызываючая музыка.

Раптам, бытцам па нейчым таёмным загаду, паўзучы цень сьвігавічна хлынуў на сьціснуўшыхся ў кутку катоў, і там у цемнаце пачалася другая, ня менш заўзятая барацьба, якая ізноў агарнула мяне жахам тым больш, што я нямог разрожніць яе асобных падробнасьцяў.

Малюсенькі, прыгожы, кволы каток разтраціўшыся і, відавочна, не ўяўляючы сабе небасьпекі, зграбным подскакам кінуўся да сьвятла. Усьлед яму мігнулі дзьве шпаркія цені, як бытцам сьлізнулі ў паветры, і праз некалькі хвілін кацёнак быў разьдзерты на часьці. Разлёгся кароткі жаласны піск, і на помач да яго з распачным высілкам кінулася маці. З жахам я ўбачыў, як у яе цела ўчапілася агідныя зьвяраты. Верашча з болю—гэткага кацячага вераску мне ніколі не здаралася чуць—яна пацягнула за сабой сваіх лачных крыві ўбіўцаў, ня маючы магчымасьці даць ратунак свайму дзіцяці.

Каб зара пасьля ўсяго гэтага, бітва ня была зьнечаку перапынена, я-бы, напэўна, ўмяшаўся, каб, ўрэшце, стрымаць яе. Я часта пасьля пытаў сябе, што стрымала мяне зрабіць гэта з самага пачатку. Чалавеку свомна дзіўная склоннасьць назіраць змаганьне жывёлаў, і ў пахотлівай насалодзе гэтага пабуджаючага відовішча крыюцца не адны толькі цёмныя рысы: ў аснове яе, безумоўна, ляжыць пашана да самаістага праяўленьня прыроды і скрытая сьвядомасьць тэй праўды, што чалавек ня здолен ні зьменшыць, ні павялічыць яе дзейнасьці. Я яшчэ ў дзяцінстве з захопленьнем і радасьцю глядзеў на тое як бьюцца пеўні і з пачуцьцём захвату, без найменьшай дозы сораму, нажыдаў яго вынікаў. Гэтак сама, дзіцяцяй, я з труднасьцю разумеў, чаму людзі стараюцца разьняць счапіўшыхся сабак, і хоць майму слаўнаму пінчару, якога я вельмі любіў, перагрыз горла воўкадаў, я добра памятаю, што не гледзячы на ўсю прыкрасьць, я сьлядзіў за злым пераможцам з захватам, перамешаным з вялікай задрасьцю да яго лаўраў.

У той момант, калі я, ахоплены жахам і спачуваньнем, пастанавіў ўмяшацца ў крывавую сцэну і асьцярожна ўзяўся за рэвольвар, наперад з затаёнай радасьцю важачы ў сабе страшэнны ўплыў, які павінен выклікаць гром стрэлу на гэтым полі бітвы,—знекульсь, спозадзь, з цёмнага кута пакою, пачуўся зык, ўладная сіла каторага была значнейшай, чым полымны гром са сталёвай рулькі рэвольвара. Разлеглося ціхае сычэньне, якое з аднакавым правам можна было-б назваць панурым сьвістам і каторае напамінала згук,

крыху сьмешны, з якім гусі, нізка выцягнуўшы шыі, кіруюцца наўстрэч працаўніку. Але ўплыў гэтага ня зычнага і ў той-жа час агідна надаедлівага голасу бы далёка ня сьмешны,—у ім была нейкая страшэнная сіла. Я пачуў, як кроў застыгла ў мяне ў жылах, і магільная цішыня, якая адразу запанавала ў пакою, зьмяніла мой перапуд ў амярцьвеньне. Стала так ціха, што я чуў тутненье сваей крыві ў вушах, пакуль памалу, памалу маё сэрца ня стала біцца тым страшным, глухім удараньнем, ад якога сьціскае аддыханьне і чалавек адчувае хваравітае пачуцьцё ўдушлівасьці. Я бачыў як зьвераты замерлі на памосьце цёмнымі, нярухомымі плямамі, заціх на момант нават сьмяротны стогн раненых, і толькі асьветлены месячным сьвятлом вялікі пацук з разпластаным брухам круціўся па памосьце ў лужы крыві, заблутаўшыся ў сваіх кішкох. Яго хрыпаты піск і агіднае кружэньне тварылі немаль камічнае ўражаньне бязсэнсоўнага, бязмэтнага высілку.

„Пад гарачым камяням раздаўся голас зьмяі.
„Яе глухое пеяньне лёдам сэрцы сьцінае,
„і з голасу яе глядзяць вочы сьмерці,
„як з горскіх вярховак вечнага сьнегу“.

Я чуў гэтыя штрофы ад аднаго факіра у Мараце, запісаў іх і толькі пасьля даведаўся, што яны вельмі даўнага паходжаньня і ўзяты з папулярнай песьні горскіх плямен Заходняга Гату. Ў гэты момант я быў, праўда, вельмі далёкі ад мысьлі аб гэтай песьні, але яна бытцам сама ўспомніла абамне і завaладала мной ў гэту страшную хвіліну, і я зноў нейкім цудоўным спосабам, пачуў тую падвышаючую спакойнасьць, якая, бытцам зьнешняя высшая сіла, аваладзевае намі ў мінуты небасьпекі.

Я ўбачыў вялізную зьмяю і яе вузкая галава была крыху паднята ад зямлі. Калі яна прыбліжылася да сьвятла, я разрожніў яе высунутае тонкае жыгала. Мне паказалася, што яна пасьміхаецца.

Перад маімі вачамі пачалася жорсткая гульня зьмяі, адзінака вядомая ўсім народам зямлі, праслаўляючым ці праклінаючым яе. Ніводнаму другому стварэньню ня свомна гэта таёмнасная сіла, нямая неаб'ясьнімая і выходзячая бытцам з паза-гробнага царства зла. Адвага і харобрасьць, добрае аружжа і халоднасьць крыві ей не небасьпечны: побач з многімі магічнымі спосабамі яна абладае яшчэ адным страшным аружжам, перад каторым бязсілен нават герой—спасобнасьцю выклікаць агіду. Але побач з гэтым і многім другім, што таіць ў сабе яе істота, на ўсіх яе рухах ляжыць дэмонічнае таўро напамінаючае нам аб вечнай перавзе зла. Яе крывадушнае поўзаньне раўняецца з пакорнасьцю, прыгожасьць з ілжывасьцю, магутнасьць з нізасьцю. Усе свомасьці, якія надаюць сільнай істоце прастату і адвагу, яна, бытцам тайна ўпіваючыся сваекарысьлівай злосьцю, злучае з лжывай крывадушнасьцю. Ў рухах яе цела стыхіі вады, зямлі і паветра як бытцам трацяць разрожніваючыя іх свомасьці, бо рухі зьмяі не падобны на рухі ніводнай жывой істоты; цячэньне вады зыходзіцца ў іх з заклінаньнем магаў.

Зьмяя абвілася наўкол раненага, яшчэ жывога пацука, нечакана спыніла свой сонны танец завaражываючый ўсё жывое, і пачала паглынаць дабычу. Яе бязклопатны выгляд і спакойная пэўнасьць рухаў ўразілі мяне да глыбіны душы; здавалася, яна ведае, што німа істоты якая-бы магла ей пярэчыць. Ў пакою было ціха, толькі са столі сыпалася часам дробная порсьць. Сьветлавыя арнаманты на памосьце памалу пасуваліся далей. Зямля авярта-

ецца,—думаў я,—разам са мной, з гэтай хіжачкай паядаючай дабычу з падохшымі зьвяратамі ў гэтым пакою і са ўсімі тымі, ад каторых я аддзелен цяпер бязмежным морам. У праходзе храпеў Паньня і Эльяс заснуў пры мне. Я ўзяў асьцярожна са скрынкі вялікую індыйскую сыгару, чорную як алёс, і вогкую, як зямля; закурыў чакаючы раніцы. Мае мысьлі разам з клубамі дыму падымаліся ў зяленаваты зьмерк: я думаў аб жыцьці людзей і жывёлаў на гэтай дзіўнай зямлі.

Пераклаў з нямецкай мовы М-кач.

---

Э. Сэтон-Томпсон.

# Бадзячая кошка.

## Першая калея жыцьця.

### I.

— Мяса! мяса!—разлягаўся раздражняюча-пісклівы крык на ўсю вуліцу. А ўсё-ж такі, як відаць, у гэтым слове было нешта прыцягаючае, бо з першага яго окліча пачалі зьбягацца з цэлага кварталу каты. Але дзіўна: сабакі утка не выяўлялі ніякай зацікаўленасьці.

—Мя-са! Мя-са!—чулася ўсё галасьней. Урэшце паказаўся і сам магнас—нікчэмны, бруднаваты чалавечына з ручной каляскай. За ім імчалася цэлае стада катоў падпяваючых яму ў тон сваім мяўканьнем. Праз кождыя пяцьдзесяць крокаў, а гэта знача калі ўжо набіралася даволі многа катоў, каляска затрымлівалася. Чалавек з прыемна-мілым абліччам выймаў са скрынкі тў калясцы цененькія пруточкі, на каторых нянізаны былі кавалкі пахучай пячонкі. З дапамогай доўгага кійка ён раскідаў іх ва ўсе староны.

Кожды кот хапаў свой кавалак і, крышку прыгнуўшы вушы, з прагавітым блескам вачэй ды ціхім вурчаньнем, уцякаў, каб зьесьці яго ў зацішным мейсцы.

— Мя-са! Мя-са!

Каты не переставалі збягацца па свае порцыі. Чалавек з тачкаю знаў іх на перачот. Вось „Тыгрэц“ Кастільёна, вось „Араб“ Джонса, вось „Рабчык“ Праліцкага, вось „Бялянка“ пані Дантон. Вось крадзецца „Мальціец“ Бленкінсгофа, а вось лезе проста на тачку рыжы „Мурчак“ Сойера, няўстрымна-лачны кот, які ня знае меры,—трэба глядзець за ім ня плюсна вачыма. Яго гаспадару напэўна прыдзецца плаціць дзесяць цэнтаў на тыдзень. А гэта кот Джона Уошы. Ен дастане толькі маленечкі кавалачак, бо Джон павінен заплаціць яшчэ за папярэдні час. Тут падкрадаецца чысьценькая кошачка з вялікай какардкай на шыі; ей даецца больш чым іншым, бо яе гаспадыня, крамніца, кабета шчодрая.

Кот абьездчыка, за каторага нічога ня плацілі, усё-ж такі, карыстаўся ўвагай чалавека з каляскай. Ня тое было з другімі. Чорная кошка з белым носікам таксама прыбегла разам з другімі, але яе адпіхнулі. Чаму? Вось дзіўна! Цэлы месяц яна кармілася з каляскі! Дзеля чаго-ж такая раптоўная перамена? Яна ніяк не магла гэтага ўцяміць. Затое чалавек з каляскай добра разумеў. Гаспадыня перастала плаціць за яе. Хаця ён ніякіх запісаў у кнігах ня вёў, але добра памятаў усе рахункі.

Апрача гэтых шчасьлівых чатырохсот катоў, былі яшчэ і такія, што ня маглі блізка падыходзіць да каляскі, бо яны не былі занесены ў сталоўныя сьпіскі. Іх, ўсё-ж такі вабіў смачны пах і надзея на шчасьлівае здарэньне. Сярод іх была рабая „Бадзячка“, ня маючая гаспадара, кошка, худая і ня вельмі чыстая, здабываўшая сама сабе харчаваньне. Адразу відаць было што яна недзе спаўняе свае фамілійныя абавязкі. Адным вокам яна абвяла кампанію каля каляскі а другім паглядвала, ці німа часамі блізка сабак. Яна бачыла, як шчасьлівыя кошкі з лачным выглядам нясьлі ў зубах сваю смачную штодзенную ежу. Ей не шанцавала, пакуль вялікі кот, які так сама ня меў гаспадара, ня скочыў на маленькага пэнсыонера, каторага намеціў абрабаваць. Той выпусьціў з зубоў мяса і пачаў абараняцца ад ворага, але раней чымся чалавек с каляскай мог умяшацца ў гэтую справу, рабая „Бадзячка“, карыстаючы з гэтага моманту, схапіла здабычу і толькі яе бачылі!

Яна праціснулася праз шчыліну нейкай брамкі, потым залезла на страху, разселася, зьела гэты кавалак пячонкі, аблізалася і пачула сябе саўсім шчасьліваю. Тагды яна пайшла кружнымі пэралазамі на свой панадворак, дзе, ў старой драўлянай скрынцы ад тавару, яе чакалі кацюкі. Раптам яна пачула жаласнае мяўканьне. Яна пабегла шпарчэй і, заглянуўшы ў скрынку, убачыла, што аграмадны чорны кот душыць яе дзяцей! Ен быў у два разы большы за яе, але ўсё-ж такі яна адважна кінулася на яго, і той адступіўся, як адступаецца большасьць зьвяроў, калі іх неспадзеўкі ловяць на мейсцы праступку,—павярнуўся і падаўся наўцёк. Жывым засталося толькі адно кацянё, вельмі падобнае да мацеры, толькі крыху цямнейшае,—рабое з чорнымі плямкамі і белымі кропкамі на носе, вушах і кончыку хвосьціка.

Першыя дні маці вельмі бедавала, а пасьля супакоілася і ськівавала ўсю чуласьць на сваё адзінае дзіцянятка. І маці і кацянё ў кароткі час значна паправіліся. Штодзеннае шуканьне ежы ішло сваім парадкам. Ад чалавека, што развозіў пячонку, рэдка здаралася пажывіцца. Затое на сьметніку заўсёды можна было нешта знайсьці,—калі ня рэшткі мяса, дык хоць бульбяную лупініну, абы толькі перагнаць голад да другога дня.

Раз, вечарам, кошка-маці пачула дзіўны пах, які цягнуўся ад рэчкі з канца вуліцы. Новы пах заўсёды трэба дасьледаваць, а асабліва, калі ён прыемны. Чуцьцё прывяло котку, пад полагам ночы, на прыстань. Раптам— неспадзеўны шум, вурчаньне, скок... Котка зразумела, што мае стычнасьць са сваім старым ворагам—сабакаю.

Заставалася толькі одно збаўленьне: кошка скочыла з прыстані на барку з каторай і йшоў гэты прыемны пах. Сабака ня мог скочыць туды за яе прыкладам, і, раніцай, калі рыбацкая барка адыйшла ад берагу, кошка паехала ў нявольную падарожу. Больш яе і ня бачылі.

II.

Маленькая кошачка дарма чакала сваю матку. Прайшла раніца, прайшоў цэлы дзень! Ей вельмі захацелася есьці. У вечары прыродны інстынкт пацягнуў яе пайсьці на пашуканьне корму. Яна вылезла са старой скрынкі і, моўчкі прабіраючыся праз сьмяцьцё, пачала абнюхваць ўсё, што здавалася прыгодным да яды, але ўсё-ж такі ежы не знайшла. Урэшце яна дабралася да драўлянай лесьвіцы, якая вяла ў падвал япончыка Малі. Дзьверы былі толькі прычынены. Кошачка апынулася паміж дзіўных, моцных пахаў і ўбачыла сябе акружанай жывымі істотамі ў клетках. З боку, гультавата разваліўшыся на скрынцы сядзеў нэгр. Ен заўважыў, як увайшла маленькая не-

знаёмка і з цікаўнасьцю глядзеў што яна будзе рабіць. Кошачка прайшла каля трусікаў. Яны не зьвярнулі на яе ўвагі. Яна падыйшла да клеткі з рэдкімі пруцьцямі ў якой сядзела лісіца. Зьвер з пушыстым хвастом ляжаў ў куточку. Ен прытаіўся, вочы яго йскрыліся. Кошачка прынюхваючыся ўсунула галаву паміж пруткоў, ізноў пацягнула носікам паветра і парушылася ў бок, карытца з ежай, але насцярожаная лісіца мігам сцапала яе. Раздалося жаласнае мяўканьне; моцная ўстрастка перарвала мяўканьне і, напэўна, выгнала-бы з кошачкі дух, каб нэгр не пасьпяшыў з паратункам. Аружжа ў яго ў руках не было ніякага, ўлезьці-ж ў клетку ён таксама ня мог. Што-ж рабіць? Ен проста плюнуў лісіцы ў вочы ды з такой моцай, што тая ад неспадзеўкі выпусьціла кацянё і адступілася ізноў у кут, толькі лыпаючы вачыма.

Нэгр, паміж тым, выцягнуў кошачку. Яна была самлеўшы, але затое ня чула болі. Кошачка нібы была непашкоджана. Ачуняўшы, яна спачатку кружылася на адным мейсцы, пасьля, пакрысе, аправілася і праз некалькі хвілін, бытцам нічога й не было, мурчэла на каленках у нэгра. У гэтую пару вярнуўся да хаты Японччык Малі, гандляр птушкамі.

Японччык саўсім ня быў японцам. Гэта быў самы запраўдны сын Лёндана, але прырода пасадзіла на яго круглым прыплюснутым твары маленечкія косыя вочкі. Дзеля гэтага людзі празвалі яго „Японччык". Нельга сказаць, каб ён дрэнна абходзіўся з птушкамі і зьвяркамі, якімі гандляваў, але ён прытрымліваўся сваей карысці і ведаў чаго яму трэба. Бадзячая кошачка яму ня была патрэбна.

Нэгр сытна накарміў яе, пасьля вынес і кінуў у суседні панадворак.

III.

Добра паесьці раз на два-тры дні, чаго яшчэ больш хацець! Павялічыўшы свой запас цяпла і сіл, Кіська вельмі ажывілася. Яна хадзіла каля гурбаў сьмяцьця і з зацікаўленнасьцю паглядала ў даль, на высокія вокны, дзе ў клетках віселі канарэйкі. Яна залезла на плот, убачыла вялікага сабаку, ціханька зьлезла назад і адшукаўшы надатнае мейсца на прысонейку ўлеглася і на гадзінку заснула. Збудзіла яе нейкае порсканьне. Перад ею стаяў вялікі чорны кот з бліскучымі зялёнымі вачыма, тоўстым каркам і выступаючымі ськівіцамі. На шчацэ ў яго быў шрам і левае вуха было раздзёрта. Выгляд у яго быў вельмі няпрыязны.

Ен ледзь-ледзь прыкорчаў вушы і пакручваў хвастом, а з горла ў яго выходзіў нейкі дзіўны храп. Кіська даверліва пайшла да яго. Яна яго не памятала. Ен пацерся мордаю аб стоўб, паволі павярнуўся і шчэз. Апошняе, што Кіська бачыла, гэта кончык яго хваста, які пакручваўся з боку ў бок. Бяднотка і не цяміла, што яна была так-жа блізка да сьмерці, як і ў тую мінуту, калі залезла ў клетку лісіцы.

Да ночы Кіська вельмі захацела есьці. Яна пачала старэнна ўнюхвацца ў той вялікі няўгледны пах з каторага складаецца вецяр. Кіська выбрала самую цікавую з яго паласу і пайшла наперад, кіруючыся пачуцьцём. Тутка ўдалося ей знайсьці сёе тое для ежы. Кадушка вады пад дажджавым стокам дала ей магчымасьць пагасіць смагу.

Усю ноч Кіська пахаджала сабе і рабіла досьледы асаблівасьцяў панадворка. У дзень яна, як і ўчора, спала на сонцы. Час ішоў.

У скрынцы са сьмяцьцём часам бывала смачная ежа, а часамі нічога не знаходзілася. Адзін раз яна там убачыла вялікага чорнага ката, але здолела

ўцячы, перш чым ён яе ўбачыў. Кадушка з вадой бадай што заўсёды стаяла на гэтым самым мейсцы; калі яе не было, дык можна было напіцца з лужы пад рынай. Толькі на скрынку са сьмяцьцём нельга было пакладаць надзею: здаралася, што яна яе пакідала бяз яды на тры дні. Яна пачала шукаць ежы пад высокім плотам. Убачыўшы нейкую прагаліну, яна пралезла ў яе і апынулася на вуліцы. Гэта быў саўсім новы сьвет. Але перш чым яна адважылася зрабіць некольві крокаў, кінуўся на яе, брэшучы, вялізарны сабака. Кіська ледзь здолела праз тую прагаліну ў плоце шмыгануць назад. Ей страшэнна хацелася есьці і яна ўцешылася старой бульбяной лупініне, якая дала ей магчымасьць хоць крыху прыглушыць мукі голаду. Раніцай яна таксама ня спала і шукала ежы. На панадворку чырыкалі верабьі. Хоць Кіська і не раз бачыла верабьёў, але цяпер глянула на іх саўсім другімі вачыма. Голад прабудзіў у ей дзікага лаўца. Верабьі—гэта пажаданая здабыча, гэта сытная ежа! Яна асьцярожна падкрадалася але верабьі былі спрытнейшымі і заўсёды пасьпевалі паляцець. Яна паўтарала гэтыя спробы ня раз і ня два і толькі тагды запраўды залічыла верабьёў у непрыдатную да ежы здабычу, калі ей не ўдалося злавіць ніводнага с паміж іх.

На пяты дзень сваіх няўдач Кіська адважылася выйсьці на вуліцу, каб як небудзь здабыць сабе ежы. Калі яна была ўжо далёка ад сваей прагаліны ў плоце, вулічныя хлопцы пачалі шпуляць на яе каменьнямі. Яна с перапуду пусьцілася ўцякаць. Да хлопцаў далучыўся сабака і становішча Кіські зрабілася небасьпечным. На шчасьце, ўперадзе відаць было стары дом з чугунным плотам, які акрыжаў дом і гародчык. Кіська пралезла паміж пераккладзінамі якраз у той момант, калі сабака яе дагнаў. З вакна нейкая кабеціна крыкнула на сабаку. Пасьля дзеці кінулі Кісьцы кавалак мяса і яна пад'ела так, як ей яшчэ ніколі не здаралася. Знайшоўшы сабе басьпечнае мейсца на прыстрэшку яна цярпліва прасядзела на ім пакуль ня зьмеркла і, пасьля, крадучыся—як цень, пайшла на свой стары панадворак.

Так прайшло каля двох месяцаў. Кіська вырасла, падужала і пазнаёмілася з усей аколіцай. Яна добра пазнала вуліцу Даўні, дзе кождую раніцу выстаўляліся доўгіе шэрагі скрынак са сьмяцьцём. У яе вырабілася ўласнае разуменьне аб іх валадарах Так, напрыклад, вялікі дом ня быў для яе каталіцкім манастыром, а мейсцам для складаньня добрых рыбных адпадкаў. Яна хутка пазнала чалавека з тачкай і далучылася да нясьмелага гуртка кошак, тварыўшых каля яго другі круг. Сустрачала яна таксама сабаку з пристані і яшчэ двох-трох прадстаўнікоў таго-ж самага гатунку. Яна ведала чаго можна ад іх спадзявацца і як трэба ад іх хавацца. Саўсім неспадзеўна для сябе самой зрабіла яна важнае адкрыцьце. Тысячы кошак, разумеецца, круціліся каля надзячых бляшаных жбанкоў з малаком, якія раніцай пакідаюць малочніцы на парогах, ці падаконніках, але ніяк ня маглі пажывіцца. Нямаглі яны адчыныць покрышкі. Кіська аднаго разу, выпадкова, знайшла жбанок, покрышка на якім была крыху вышчэрблена і Кіська дагадалася, што трэба вечка падняць, каб напіцца. Разумеецца з закаркаванымі бутэлькамі яна нічога ня магла зрабіць, але на жбанках часта бываюць кепскія покрышкі і Кіська іх старэнна адчыняла.

Яна рабіла досьледы ў сваіх ваколіцах аж да суседзкага плоту, а то і далей, пакуль не апынулася сярод кадушак і скрынак, якія стаялі у панадворку, па—за крамаю прадаўца птушак. Тутка яна пачула сябе як у хаце. Яе вельмі абыйшла толькі прысутнасьць другой кошачкі, да каторай яна падыйшла з пагражаючым выглядам. Яны абедзьве пачалі порскаць і плявацца, аж тут раптам на іх хлюнулі з вакна вядром вады. Гэта саўсім рас-

[г]аладзіла іх заўзятасьць. Някліканая госьця падалася наўцёк праз плот, а [К]іська забілася пад тую самую скрынку, дзе яна, радзілася. Усё акружаючае [ш]мат гаварыла яе сэрцу і яна зноў перасялілася сюды. На гэтым панадвор-[к]у ў сьмяцьці было ежы ня болей, як у тым, але затое былі тут мышы, а [ч]асамі і ненайгоршыя пацукі. Яны ня толькі былі для яе ласаваньнем, але [л]овячы іх, яна здабыла сабе прыяцеля.

IV.

Кіська ўжо стала ўзрослай. З яе вышла прыгожанькая шэранькая кошачка. На сьветла—шэрай поўстцы ў яе былі чорны плямкі, а белыя крапінкі на носіку. вушах і кончыку хваста дадавалі ей асаблівую прыгожасьць. Яна навучылася лоўка здабываць ежу, але ўсё—ж ткі часамі галадавала, і пры ўсім жаданьні ей не ўдавалася злавіць верабья. Да гэтай пары яна была саўсім самотнай, але ў яе жыцьці рыхтавалася перамена.

Раз цёплым днём жніўеня яна грэлася на сонцы, як раптам убачыла вялікага чорнага ката, каторы ідучы плотам кіраваўся да яе. Кіська адразу спазнала яго па раздзёртым вуху і пасьпяшыла схавацца ў сваю скрынку. Ён асьцярожна прабіраўся далей сваей дарогай, лёгка ўскочыў на паркан ў канцы панадворка і пайшоў па страсе, аж тут раптам на спатканьне яму паказаўся рыжы кот. Чорны бліснуў вычыма і зарычэў. Рыжы таксама. Хвасты іх сьцёбаліся з боку ў бок. Магутныя горлы вылі і гручэлі. Яны зблізіліся адзін да аднаго з прыхіленымі вушыма і напружанымі мускуламі.

— Я—яў—яў! — рычэў Чорны.

— Уаў—у—у—у! — гудзеў праціўнік.

— Я—уаў—уаў—уаў—уаў! — яшчэ раз завыў Чорны, ступаючы бліжэй на паў-цаля.

— Яў—у—у! — адказаў Рыжы, выцягваючыся ва ўвесь узрост і харобра падсоўваючыся на поўную цалю.

— Яў—у! —ён падсунуўся яшчэ на цалю і моцна сьцябаў сябе хвастом на бакох.

— Я—уаў—яў—у! — заверашчэў Чорны і адступіўся на восьмую часьць цалі, ўбачыўшы перад сабою моцныя шырокія грудзі ворага.

Увакруг паадчыняліся вокны, пачуліся чалавечыя галасы, але каты рабілі сваё.

— Яў—яў—аў! рычэў Рыжы. Яго голас слабеў, тагды як у Чорнага павышаўся.

— Яў! — і ён зрабіў яшчэ крок наперад.

Цяперака насы іх знаходзіліся адзін ад другога на нейкія дзьве цалі. Яны стаялі бокам гатовыя ўчапіцца адзін у другога, але кожды чакаў, каб пачаў праціўнік. Мінуты тры яны з біскучымі вачыма стаялі моўчкі, як камянныя, толькі ў кождага круціўся кончык хваста.

Рыжы зноў пачаў басам:

— Яў—аў—аў!

— Я—а—а—а—а! — пранізваюча ўскрыкнуў яшчэ галасьней Чорны разлічаючы нагнаць страху сваім верашчаньнем, але сам ў той час адсунуўся на адну шаснадцатую цаля

Рыжы падсунуўся на добрую поўцалі. Вусы іх прыткнуліся. Яшчэ рух —і яны стаўкануцца насамі.

— Яў—у—у! — раздаўся глухі выклік Рыжага.

— Я—а—а—а—а! — крыкнуў Чорны, адступаючы на адну трыцать другую цалі, але Рыжы ваяка кінуўся і ўчапіўся ў яго як чорт.

Як яны качаліся абодвы, як кусалі і калашмацілі адзін аднаго, а асабліва Рыжы.

Як яны перакуляліся, душылі і цяскалі адзін другога, асабліва Рыжы.

То адзін апынаўся зьверху, то другі, але часьцей Рыжы. Так цягнулася, пакуль яны ня зваліліся са страхі пад вясёлыя выкрыкі з вокан. Нават падаючы, яны ня марнавалі часу і са ўсіх сіл дзерліся кусаліся, а найбольш Рыжы. Калі яны апынуліся на зямлі, ўсё-ж не перастаючы біцца, зьверху быў Рыжы. Ім добра дасталося абодвым, асабліва Чорнаму. Абліваючыся крывёй, са злосным вурчаньнем, ён пераскочыў праз плот і зьнік з вачэй, а з вакна ў вакно перeказывалася навіна, што Рыжы Мурчак збароў Кайлёва Нэгра.

Ці то ўмеў Рыжы добра шукаць, ці Кіська няўмела добра хавацца, але ён знашоў яе сярод скрынак. Яна ня пробавала ўцякаць напэўна таму, што была сьведкаю нядаўнага паядынку. Як відаць, ваенныя перавагі Рыжага абвaражылі яе сэрца бо пасля гэтага здарэньня яны вельмі здружыліся. Ядой яны не дзяліліся,—такога звычаю ў катоў няма,— але прызнавалі яны адзін за другім права на рожныя прыяцельскія добрыя паслугі.

V.

Прайшоў верасень. Наступілі кароткія дні кастрычніка, і ў старой скрынцы адбылося адно здарэньне. Калі-б Рыжы Мурчак туды заглянуў, то ўбачыў-бы пяцёра маленькіх кацятак у абоймах мацяры, · Бадзячай Кошкі. Яна была шчасьлівай у сваей мацярыстай радасьці. Сваіх кацятак яна любіла і туліла з такою далікатнасьцю, што павінна была-б сама з сябе дзівіцца, калі-б была здольнай аб гэтым падумаць.

У ея безпатольным жыцьці зьявілася радасць, але затое і павялічыліся клопаты. Усе яе жаданьні цяпер былі сьціраваны на тое, каб здабываць пакорм для сямьі. Труднасьці павялічаліся па меры таго, як кацяты падрасталі. Калі ім было тыдняў шэсьць, яны ўжо ў адсутнасьці мацяры вылазілі са скрынкі. Бадзячыя зьвяры ведаюць, што няшчасьця прыходзяць адно за адным, а шчасьце—паласою. Кіська мела тры ня прыемных сустрэчы з сабакамі, а ў час трохдзённага галадаваньня нэгр Малі шпурнуў у яе камянам. Усе—ж ткі, пасьля, Доля ей пасьміхнулася. На заўтрае яна знашла жбанок малака бяз покрышкі, пасьля спрытна аграбіла сваю таварышку атрымаўшую корм з тачкі і знашла вялізарную галаву рыбы,—ўсё гэта на працягу якіх—небудзь дзьвех гадзін. Яна вярталася ў добрым настроі, які бывае толькі пры напоўненым жываце, аж раптам убачыла ў панадворку нейкае маленькае стварэньне цьмянага коляру. У яе праляцелі нейкія невыразныя ўспаміны. Такой жывіны яна ніколі ня бачыла, але ей здаралася есьці мышэй. Напэўна гэта ёсьць вялікая карокахвостая, клышавая мыш. Кіська падкрадваляся з саўсім дарэмнай асьцярожнасьцю: маленькі трусік саўсім ня думаў уцякаць. Кіська скаканула і сцапала яго. Дзеля таго, што яна была наеўшыся, дык прывалокшы яго да скрынкі кінула кацятам. Ен ня вельмі ўдарыўся і скора ачуняў ад перапалоху. Вылезьці са скрынкі яму не было магчымасьці і ён прытуліўся да кацячай грамадкі. Калі—ж кацяты ўзяліся за сваю вячэру, трусік пашоў іх прыкладам. Старая кошка была здзіўлена. Лавецкі інстынкт пераважаў у ей над усім другім. Трусіка выратавала толькі тое, што кошка

ня была галоднаю. У канцы канцоў трусік зрабіўся сябрам сямьі, каторага яна таксама даглядала і к рміла разам з кацятамі. Так прашло два тыдні. Калі маці выходзіла, кацяты пачыналі бегатню паміж скрынак, але трусік ня мог вылезьці са свайго прытулку.

Японччык Малі, ўбчыўшы кацят у пан-дворку загадаў нэгру пазабіваць іх. Той споўніў загад і ледзь ён пазапіхаў пабітых кацят у кучу сьметніка, як з надберагу Рэчкі прыбегла старая кошка з малым пацуком ў зубах. Нэгр хацеў і яе забіць, але ўбачыўшы пацука ўстрымаўся: кошка, якая ловіць мышэй заслугоўвала права на жыцьцё. Гэта быў першы злоўлены Кіськаю пацук і дзеля гэтага выпадковага здарэньня пацук выратаваў яе. Кіська пашла да скрынкі. Мусі яна вельмі зьдзівілася, што кацяты ня зьбегліся на яе покліч і што трусік не захацеў папрабаваць пацуковага мяса. Яна лягля, каб накарміць трусіка, але час ад часу мяўкала клічучы кацят. Чуючы гэтае мяўканьне нэгр знашоў скрынку ў каторай жыла Кіська. Глянуўшы туды, ён зьдзіўлены ўбачыў старую кошку, жывога трусіка і задушанага пацука.

Кошка-маці насьцярожылася і агрызнулася. Нэгр адышоў, але праз мінуту накрыў скрынку доскаю і ўсё гняздо з яе жывымі і мёртвымі жыхарамі, было перанесена ў птушачы падвал.

— Глядзі, гаспадар! Куды трапіў Трусік? Я іх усіх прывалок.

Кіську з трусікам пасадзілі ў вялікую драцяную клетку і ўсім паказвалі іх як шчасьлівую сямейку. Праз колькі дзён кролік захварэў і здох.

Кіська чула сябе ня шчаснаю ў клетцы. Ей было досыць яды і піцьця, але яна сумавала па вольнай волі. Напэўна яе або выпусьцілі-б, або забілі-б, каб яна за гэтыя чатыры дні палону так ня вылізала і ня вычысьціла сваей поўсьці што аж паказалася яе тыгровая каляроўка, і, дзеля гэтага, Японччык надумаў пакінуць яе ў сябе.

## Другая каляя жыцьця.

### VI.

Японччык Малі быў адным з самых бязсорамных гандляроў, якія толькі калі колечы гандлявалі дрэньненькімі канарэйкамі. Ен быў вельмі бедны. Нэгр жыў у яго таму, што „англіец" на аднэй пасьцелі спаў з ім, еў разам і наагул быў з ім як з роўным чалавекам, а на гэта ня кожды амэрыканец мог-бы згодзіцца. Японччык па свайму разуменьню ня быў нясумлены, хаця, праўду сказаць, разуменьня гэтага ў яго ня было. Усе ведалі, што запраўдны промысел яго, ёсьць ў тым, што ён хавае крадзеных сабак і, пасьля, калі гаспадары гэтых сабак прызначаюць за зварот грошы, ён аддае іх, а таргоўля канарэйкамі толькі для таго, каб адвясьці вочы. Усё-ж такі Японччык верыў у лепшую сваю долю.

— Пабачыш, Саммі, пабачыш дружа, што я буду езьдзіць у свай карэце на ўласных конях,—казаў ён, калі часам яму ў нечымсь пашанцавала і ад радасьці выпучваліся яго брудныя грудзі.

Ен быў пэўны ў сваіх здольнасьцях і розуме, любіў думаць аб гэтым і хацеў праславіцца.

Раз яму прышла думка паслаць кошку на выстаўку „Нікербокерскага Пачэснага Таварыства хатніх і асвояных кошак". Ім кіравалі тры не саўсім безкарысных мэты: наперш, хацелася здаволіць сваю пыху; па-другое, здабыць сабе дармовы ўход на выстаўку; па трэйцяе, ён казаў:

— Ну, ведаеце, трэба канечна разрожніваць цэнных кошак, калі, ведаеце, маем дачыненьне з кошкамі.

Дзеля таго, што выстаўка рабілася Таварыствам, то ён павінен быў раней паказаць маючае быць выстаўленным і яго нікчэмная кошка, нібы пэрсідзкай пароды была з пагардай адкінута.

Японччык у газэтах больш за ўсё цікавіўся аддзелам „знаходкі і згубы“, але раз неяк ён вырэзаў артыкульчык „Аб вырашчываньні поўсьці“. Ен прыклеіў вырэзку на сьцяне сваей каморкі і, кіруючыся ею, стаў рабіць неміласэрныя досьледы над Бадзячай Кошкай. Перш за ўсё ён намачыў яе брудную поўсьць нейкім лякарствам, каб выгубіць блох, якія кішэлі тамака, затым, не зважаючы на тое, што яна кусалася, дзёрлася і пішчэла, ён добра выкупаў яе ў цёплай вадзе з мылам. Абураная Кіська злавалася, але калі яна абсохла ў клетцы каля печкі, поўсьць яе стала незвычайна пушыстаю і мяккаю. Японччык і яго памочнік вельмі радаваліся і Кіська таксама магла радавацца... Аднак гэта толькі кветачкі, ягадкі мелі быць наперадзі.

„Німа нічога лепей, як тлуста есьці і доўга бываць на холадзе, каб поўсьць добра расла“, навучала газетная вырэзка. Справа была зімою і Малі паставіў клетку з Кіськай ў панадворку пад паветкай, каторая прыкрывала толькі ад дожджу і парывістага ветру, і пачаў карміць яе без канца рыб'імі галовамі і тучнымі клёцкамі. Прэз тыдзень ужо можна было бачыць перамену. Кіська рабілся тучнай і гладзенькай,—ей больш ня было чаго рабіць, як тучнець і лізаць сваю поўстку. Клетка яе заўсёды трымалася ў чыстаце, а прырода рабіла сваю справу: ад халоднай пагоды і добрай ежы поўсьць Кіські з кождым днём гусьцела і ўсё болей выгладжалася. На сярэдзіне зімы гэта было адно хараство, а ня кошка, з дзіўнаю скуркаю, на каторай вызначаліся цёмныя пругі, ў кождым разе выяўляючы рэдкасьць.

Японччык быў вельмі здаволены сваей спробай, а дзеля таго, што найменьшы сусьпех дадаваў яму больш ахвоты і падносіў ў гару яго настрой, дык ён ужо пачаў крозіць аб сваей славе. Чаму-ж бы не паслаць Бадзячую кошку на маючую скора адбыцца выстаўку. Няўдача папярэдняга году змусіла яго падумаць аб некатарых драбностках у гэтай справе.

— Ведаеш, Саммі,—казаў ён свайму памочніку,—нельга яе выставіць як бадзячую кошку. Трэба надумаць так, каб яна зрабіла ўражаньне на нікербокераў. Перш за ўсё трэба зычную назову, разумееш! „Каралеўскі“ і яшчэ што небудзь. Нікербокеры любяць усё, што называецца „каралеўскім“. Як табе падабаецца „Каралеўскі Дік“, ці „Каралеўскі Сам“: Ага, чакай. Гэта імёны катоў! Скажы, Саммі, як завецца твая бацькаўшчына?

— Мая бацькаўшчына—востраў Аналоста.

— Ну, ведаеш, надта добра!—„Каралаўская Аналоста“. Так і будзе! Адзіная, запраўдная „Каралеўская Аналоста“ на ўсей выстаўцы! Разумееш? Ну, ці ня прыгожа гэта?!

Яны разам засьмяяліся.

— А ўсё-ж такі, нам патрэбна яе генэалёгія.

Яны злажылі доўгую гэнэалёгію ў агульназаведзенай форме. Раз, пасьля абеду, Самм пазычыў у некага цыліндар і пашоў перадаць на выстаўку кошку з яе радаводам. Нэгр раней служыў у пастрыгальні на шостай Авэнью і мог праз пяць мінут выказаць больш дастойнасьці і павагі, як які-небудзь Яшка за ўсё жыцьцё. Быць можа што гэта ня мала спрыяла таму, што „Каралеўская Аналоста“ была прыхільна прынята на кашачую выстаўку.

Япончык вельмі пышаўся тым, што стаў экспанэнтам. Ен заўсёды з пашанай адносіўся да арыстакрацыі, а падходзячы да пад'езду ў дзень адкрыцьця выстаўкі, быў проста задзіўляны множствам багатых калясак і цыліндраў. Швайцар востра зірнуў на яго, але ўбачыўшы білет, усё-ж такі на выстаўку пусьціў, напэўна падумаўшы, што гэта слуга якога небудзь экспанэнта. Саля, дзе стаялі доўгія шэрагі клетак была выслана каберцамі. Японч‍ык абходзіў толькі бочныя аддзелы, разглядаў розных кошак, але мала на іх разумеючыся, адзначаў толькі блакітные і чырвоныя ўстужкі. Ен хацеў ўзглянуць на свой экспонат, але не адважаўся спытаць аб ім. У мысьлях ён дрыжэў, калі прыходзіла на думку, што скажа ўся гэтая знатная публіка, калі яго абман нeяк выявіцца. Ен абышоў бакавыя аддзелы і бачыў ня мала адзначаных наградамі кошак, але бадзячай кошкі нідзе ня было. У сярэдніх аддзелах ўдвойчы больш таўпежылася народу. Ен сяк так прабіўся і туды, але Кіські і там не было. Тагды ён падумаў, што судзьдзі ў апошнюю хвілю адмовіліся яе выставіць. Як бы там не было, білет на выстаўку ён меў і цяпер ведаў, дзе можна знайсьці дарагіх пэрсідзкіх і ангорскіх кошак.

У сярэдзіне галоўнага аддзелу памешчаны былі кошкі самых высокіх гатункаў. Тутка была немагчымая таўпежня. Гэтае мейсца было адгароджана і два паліцэйскіх даглядалі, каб публіка праходзіла роўнамерна. Японч‍ык прашмыгнуў і туды. Ен быў лішне малога ўзросту, каб бачыць праз галовы другіх, і хоць багатыя людзі пасьпешна стараніліся ад яго старой, заношанай вопраткі, усё-ж такі ён ня мог праціснуцца наперад. Хоць, чуючы размовы другіх, ён мог адразу дагадацца, што самая цікавая штука на выстаўцы ёсьць тутака.

— Якое хараство!—голасна сказала адна высокая паня.

— Якая постаць!—заўважыла другая.

— Адразу відаць арыстакратычнасьць, якая даходзіцца толькі векавым жыцьцём ў самым лепшым таварыстве.

— Як бы мне хацелася мець гэтае цудоўнае стварэньне!

— Сколькі дастойнасьці, сколькі гонару!

— Я чула, што ў яе праўдзівы радавод, каторы ідзе амаль не да фараонаў.

Бедны Японч‍ык у глыбіне душы сам дзівіўся, як ён мог адважыцца паслаць сваю Бадзячую Кошку на выстаўку ды яшчэ ў такую кампанію.

— Дазвольце, шаноўныя пані!

Гэта ішоў дырэктар выстаўкі, прабіваючы сабе дарогу.

— Тутка маляр, катораму даручана зараз-жа зрысаваць „Пэрл выстаўкі“. Будзьце ласкавы крыху пастараніцца! Вось гэтак! Дзякую вам!

— Паслухайце, пане дырэктар, ці ня можаце вы пераканаць ўласьніка· каб ён прадаў гэтую красуню.

— Гм? Ня ведаю,—адказаў дырэктар,—наскольki я зразумеў, гэта чалавек заможны і ня прыступны. Але я зраблю спробу, шаноўная пані. Ен навет неахвоча і выставіў свой скарб, як гэта можна было зразумець са слоў яго камэрдынэра. Гэй, вы, пастаранецеся,—злосна закрычаў дырэктар, калі абшмуляны маленькі чалавек стаў паміж малярам і высокароднаю кошкаю. А бязстыднаму гандляру хацелася паглядзець, дзе выстаўлены дарагія кошкі. Ен падышоў так блізка, што меў магчымасьць бачыць клетку і прачытаць прыбіты да яе надпіс.

„Блакітная ўстужка і залаты мэдаль Нюкербокерскага Пачэснага Таварыства хатніх і асвояных кошак прысуджана чыстакроўнай Каралеўскай Аналосьце, што прывёз і выставіў Я. Малі, эсквайр, вядомы знавец. Не прадаецца“.

Японччык прытаіў дух і яшчэ раз паглядзеў. Ну так напэўна! У залатой клетцы, на аксамітных подушках, з бліскучаю чорнаю і сьветла-шэраю поўсткаю, з прыплюснутымі блакітнымі вачамі, ляжала яго Бадзячая Кіська, каторую вартавалі чатыры паліцэйскіх. З яе выгляду было відаць, што ей да сьмерці надакучыла ўся гэтая блытаніна, якой яна ня любіць і не разумее.

VII.

Японччык Малія цэлымі гадзінамі тырчэў каля клеткі, з боку прыслухоўваўся да ўсялякіх уваг, і прагавіта глытаў славу, якой раней ня бачыў ні на яве ні навет ў сьне. Усё-ж такі ён дагадаўся, што яму лепш трымацца ў старане. Хай, маўляў, „камэрдынэр“ вядзе ўсю справу.

Было зразумела, што выстаўка сусьпехам сваім галоўным чынам павінна Кісьцы. Малі ня ведаў, якія грошы плаціліся за кошак. Яму здавалася, што ён прызначыў нябывалую цану, калі „камэрдынэр“, як тое сам яму даручыў, дазволіў дырэктару прадаць Аналосту за тысячу доляраў.

Вось якім парадкам Бадзячая Кіська з выстаўкі трапіла ў раскошны панскі дом на Пятай Авэнью. З самага пачатку яна выяўляла нейкую незразумелую дзікасьць. Яна не давалася гладзіць, але гаспадары тлумачылі гэта яе арыстакратычнай агідаю да панебрацтва. Калі яна дзыганула ад пакаёвага сабачкі на сярэдзіну стала за якім на той час абедалі, дык гэта тлумачылі як пераконаньне хоць і памылковае, але глыбока пусьціўшае карэньня што трэба сьцерагчыся пагарджаючага дотыку да сябе ўсялякай прастаты. Яе спробы задушыць пакаёвую канарэйку выбачыліся на тэй падставе, што на яе бацькаўшчыне, на ўсходзе, яна бачыла прыклады дэспотызму. Усе вельмі дзівіліся з якой стройнай прыгожасьцю яна адчыняла покрышку жбанка з малаком. Тая прычына, што яна не любіла свайго шоўкам вышытага кошыка і заўсёды падскаквала да люстраных вокнаў, здавалася вельмі зразумелым: кошык быў вельмі просты, а люстраныя шклы ў яе папярэднім царскім памешканьні ня ўжываліся. Тое, што яна брудзіла канапы і каберцы сьведчыла аб яе ўсходніх поглядах. Некалькі разоў, хаця і без удачы, яна прабавала лавіць вераб'ёў ў абгароджаным высокімі сьценамі панадворку. Гэта зноў вытлумачылі слабасьцю каралеўскага выхаваньня. А яе частыя досьледы памыйніцы разумеліся, як выяўленьне маленькай, годнай выбачаньня асабістай эксцэнтрычнасьці. Кіську кармілі пеставалі, але яна ня была шчасьліваю, Яна сумавала! Дзёрла сваю блакітную ўстужачку на шыі да таго часу, пакуль саўсім яе ня сьцінула; яна часта падскаквала да люстраных вокнаў таму, што яны ей здаваліся пералазам на вуліцу. Яна ўнікала людзей і сабак, таму што раней яна заўсёды бачыла з іх боку варожыя адносіны. Яна сядзела і праз вакно паглядала на стрэхі, па каторых ей хацелася пабегаць. Аднак яе вельмі пілнавалі і ніколі ня выпушчалі на вуліцу. Навет шчасьлівыя хвіліны капаньня ў памыйніцы адбываліся толькі датуль, пакуль гэтая крыніца радасьці стаяла ў хаце. Аднаго прыгожага вечара ў сакавіку месяцы, калі выносілі на вуліцу скрынку са сьмяцьцём, Каралеўская Аналоста падкралася, скочыла за дзьверы і падалася на ўцёк.

Разумееца падняўся страшэнны перапалох, але Кіська нічога ня ведала, ды і ведаць не хацела. Яна думала толькі, каб як дабрацца дамоў. Саў

м прыпадкова яна зьвярнула ў бок Грэмэрсі-Грэнж-Хільлю, куды і даб-лася пасьля некалькіх нязначных здарэньняў. І што-ж? Дамоў яна ня тра-ла, а яды пазбавілася! Ей ўжо надта захацелася есьці, але ўсё-ж ткі яна дчувала нейкае прыемнае пачуцьце волі. Яна залезла ў адзін сад. Падняўся лікі вецяр, каторы прынёс з сабою радасную надзею. Людзі сказалі-б, то гэта толькі сморад з докаў, але для Кіські гэта былі весткі з хаты. Яна бегла проста на ўсход, па вялікай вуліцы, ўзхоўж гародаў. Часамі яна на іліну ўстрымлівалася ці пераходзіла на другі бок вуліцы, каб схавацца ў ень. Урэшце яна ўбачыла докі і ваду. Аднак мейсца было незнаёмае. южна было ськіравацца на поўнач, або на поўдзень. Яна чамусьці пашла а поўдзень. Прабіраючыся берагам каля платоў, паміж вазамі, мінаючы ошак і сабак, яна праз гадзіну, а мо дзьве, ўжо апынулася сярод знаё-ых абставін і знаёмых пахаў. Йшчэ да захаду сонца яна, змораная, змуча-ая, пралезла праз памятную ей шчыліну старога плоту; пераскочыўшы праз ругі плот, яна апынулася ў панадворку па за птушачым склепам і забілася тую самую скрынку, дзе зьявілася на сьвет.

О, калі б сямья з Пятай Авэнью магла бачыць яе „родны Усход“.

Добра адпачыўшы, яна, вылезшы са скрынкі, ськіравалася да лесьвіцы, што вяла ў склеп і па старой прывычцы стала шукаць яды. На гэты час дзьверы адчыніліся і на парозе паказаўся Нэгр. Ен адвярнуўся і крыкнуў аргоўцу птушкамі:

— Слухай, гаспадар, ідзі сюды! Здаецца, Каралеўская Аналоста вярну-лася.

Японччык выбег у той жа момант, але кошка дзыганула на плот. Яны ачалі голасна клікаць яе, стараючыся заманіць ласкаю.

— Кісь—кісь—кісь! Бедная Кіся, хадзі сюды, Кісінька!

Аднак Кісінка не саўсім давералася ім і ўцякла, каб шукаць сабе кор-му, як і ў папарэднія часы.

Выставіўшы Каралеўскую Аналосту, Японччык як бы атрымаў неспадзя-ваную спадчыну. Яна дала яму магчымасьць накупіць сабе рожных патрэб-ных у хаце рэчаў і пасадзіць у клеткі некалькі новых нявольніц. Цяперака было вельмі важна зноў злавіць „яе сьветласьць“. Дзеля гэтага былі пало-жаны кавалкі тухлага мяса і другія падобныя рэчы для прыманкі. Адчува-ючы страшны голад, Кіска палезла па вялікую галаву рыбы ў пастку. Піль-нуючый гэтага Нэгр, пацягнуў за шнурок, покрышка закінулася і праз хві-ліну Аналоста ўжо была сярод нявольнікаў у склепе.

Між тым японччык акуратна чытаў абвесткі аб „згубах і знаходках“. Вось яно, жаданае: „25 доляраў таму, хто і г. д.“ Таго-ж вечера „камэрды-нэр“ пана Малі прынёс у палац на Пятай Авэнью прапаўшую кошку.

— Пан Малі казаў кланяцца. Каралеўская Аналоста вярнулася да свай-го першага гаспадара. Пан Малі з асаблівай прыемнасьцю адсылае Каралеў-скую Аналосту цяперашнім гаспадаром.

Разумеецца заплаціць нагараду пану Малі не выпадала, затое „камэр-дынэр“ вельмі выразна даў зразумець, што сам ён можа прыняць ня толькі тое, што пасулена ў абвестцы, а нават і болей.

Кіську пачалі надзвычайна сьцерагчы Аднак у яе не прапала ахвота да галоднага жыцьця і яна ня цешылася свайму багатаму становішчу, а толькі рабілася больш злою і дзікаю.

VIII.

Вясна ў Нью-Іорку ўступала ў свае правы. Верабы куляліся ў дажджаных лужах, кошкі цэлыя ночы крычэлі на стрэхах, і сямья з Пятай Авэнью стала падумываць аб пераездзе за горад. Яны спакаваліся, зачынілі дом і выехалі ў сваю летню, вільлю міляў за пяцьдзесят ад Нью-Іорку, Кіську вязьлі з сабою ў кошыку.

— Вось гэта ей толькі і патрэбна: перамяніць паветра і абставіны, каб адзвычаіцца ад сваіх першых гаспадароў і пачуваць сябе шчасьліваю.

Кошык паставілі на нешта трасучае. Кіська чула новыя згукі, нейкія пералятаючыя пахі. Пасьля пачалася тупаніна множства ног, і кошык захістаўся; кароткая астаноўка, зноў зьмена напрамку, клясканьне, тупаніна, доўгі пранізваючы сьвіст, пасьля званок каля вялікіх дзьвярэй. Гуд, трасаніна, няпрыемны пах, што ўсё павялічаўся, рабіўся ўдушлівым, і ўрэшце, абярнуўся ў немагчымы сморад; страшны шум заглушаючый візгатаньне беднай Кіські. Аднак на тую хвіліну, калі ўжо рабілася немагчымым цярпець далей прыйшло вызваленьне: Кіська пачула пляcканьне і клясканьне, з'явіўся сьвет і прылілося паветра. Мужчынскі голас крыкнуў:

— На сто двадцаць пятую вуліцу тут уставаць!

Хоць для Кіські гэта быў проста чалавечы брэх. Шум паступова цішэў і, ўрэшце сьціх. Крыху пачакаўшы, зноў пачалася грукатня з рознымі піскучымі ўстраскамі, але бяз смораднага паветра. Яны шпарка праехалі паўзбежна мору з прыемным пахам докаў. Пасьля пачаліся чаргавацца астаноўкі, стуканіна, класканьне, пляcканьне, пахі, зноў астаноўкі, зноў пахі, вялікія астаноўкі, малыя астаноўкі, дым, візгатаньне, гуд, грымоты, зноў новыя пахі, пастукваньне, пахістваньне, падскокваньне, трусаніна і зноў пахі, але пры ўсім гэтым не пачувалася, што напрамак дарогі зьмяніўся. Калі ўрэшце ўсё гэта стрымалася, праменьня сонца пачалі прабівацца праз покрышку кошыка. Каралеўскую кошку зьмясьцілі на седзішча старасьвецкай карэты і незадоўга пачалася ізноў стуканіна і скрып колаў. Да гэтага далучыўся новы агідны гам—гэта брэх сабак вялікіх і малых, які пачуўся вельмі блізка. Урэшце кошык зьнялі: Бадзячая Кіська прыехала на палецішча.

Усе былі надзвычайна прыхільны да Кіські. Усе стараліся дагадзіць Каралеўскай Аналосьце. Але гэта нікому не ўдавалася, акром рослай, дароднай кухаркі, якую Кіська вышукала, забраўшыся аднаго разу на кухню. Кіська ўжо шмат месяцаў ня чула такога паху бруднай вуліцы, якім нясло ад гэтай тоўстай асобы. Гэты пах асабліва надзіў к сабе Каралеўскую Аналосту. Даведаўшыся, што паны баяцца, каб кошка ня ўцякла, кухарка сказала:

— Я гэта зраблю. Калі кошка абліжа лапы, значыцца, яна будзе чуць сябе тутка як ў хаце.

Яна спрытна накінула фартух на непрыступную сьветласьць і намазала ей лапы салам. Кіська, разумеецца, раззлавалася,—яна тутка на ўсё злавалася,—але калі яе звольнілі, яна пачала мыцца лапкаю, і сала ей, відаць прышлося да смаку. Яна цэлую гадзіну аблізывала ўсе чатыры лапы, і кухарка здаволеная заўважыла:

— Цяперака яна, напэўна, асвоіцца.

Кіська запраўды асвоілася, але выказывала выразнае і дзіўнае пашанаваньне да кухні, кухаркі і памыйніцы, гаспадары пакрыўдзіліся гэтымі дзівачнасьцямі Каралеўскай Аналосты, але і былі рады, што яна ўціхамірылася і зрабілася ласкавейшай. Праз тыдзень-два ей далі большую свабоду. Яе сьцераглі ад уселякіх прыгод. Сабак навучылі адносіцца да яе з пашанай. Ні адзін дзяцёнак, ні адзін хлапец ў ваколіцы не адважыўся-бы шпурнуць камянём ў знатную Кошку. Есьці ей давалі многа, але яна ня была шчасьліваю. Яна нечага чакала, хаця сама ня ведала чаго. Праўда, ў яе было ўсё, але ей жадалася нечага другога. Есьць і піць да сыта, разумеецца, добра, але малако саўсім ня такое смачнае, калі яго пьеш с талеркі. Далёка прыемней пайсьці напіцца са жбанка, падняўшы покрышку. Малако трэба красьці, калі мучышся ад голаду і смагі, інакш яно ня мае тэй вартасьці і смаку, інакш гэта саўсім не малако.

Па за палацам стаяла невялікая хатка, а ўвакруг яго быў вялікі панадворак, але ўсё там было атручана і сапсута ружамі. Нават коні і сабакі тутка мелі нейкі другі пах. Ваколіца выяўляла агідную пустыню з ненавісьнымі бязжыцьцёвымі садамі і сенажацямі; нідзе ня было ніводнага вялікага будынку, ніводнага фабрычнага коміну. Як Кіська ўсё гэта ненавідзела! Быў толькі адзін пахучы куст паводаль у куце. Кіська любіла адкусваць яго лісьця і качацца ў іх. Гэта было адзінае радаснае для яе зьявішча, бо яна з часу свайго прыезду сюды не знайшла ніводнай прагніўшай галавы рыбы, ці прыстойнага сьметніка. Наагул, гэта было самае непрыемнае, нямілае, непахучае мейсца, якое яна калі небудзь бачыла. Яна безумоўна уцякла-бы ў першую ноч, каб карысталася свабодаю. Аднак свабода кольکі тыдняў не прыходзіла. Узрастаючая дружба з кухаркаю на час ўстрымлівала яе; але пасьля сумна спагнанага лета насталі прыгоды, якія зноў прабудзілі бадзячыя інстынкты ў высокай нявольніцы.

На палецішча прывязьлі з прыстані нейкі клумак. Што ў ім было—гэта ўсё роўна, але важна тое, што ён меў востры, вабячы пах докаў і гразі. Як відаць, галоўныя пабудзіцялі памяці ёсьць у носе, бо ўсё мінулае з новаю сілаю ўскрэсла парад Кіськай.

На заўтрашні дзень кухарка была выдалена з прычыны таго самага клумка. Дзякуючы гэтаму апошняя нітка, што ўстрымлівала Кіську была перарэзана.

Вечарам, меньшы хлапчук у сямьі, агідны маленькі амэрыканец, які ня шанаваў Кіськынага каралеўскага роду, прывязаў ей да хваста пустую бляшанку. Мо ён меў на думцы і не благую мэту, аднак, Кіська зазлавалася і цапнула яго лапаю ўсімі пяцерма вострымі пазурамі. На голас пакрыўджанага амэрыканца прыбегла маці. Яна спрытна шпурнула ў Кіську кніжкаю, але Кіська яшчэ спрытней ўхінулася і ўцякла, разумеецца, на гару. Высачаны пацук заўсёды ўцякае ўніз, у нару, загнаны сабака—наперад, а кошка—наверх. Кіська забілася на сталяваньне, хаваючыся ад людзкой кары і, тамака, дачакалася прыходу ночы. Тагды асьцярожна прабраўшыся ў панадворак, яна абгледзіла ўсе брамкі, пакуль не знайшла аднэй, якую забыліся зашчапіць на гачок і шчэзла ў цемры ночы, якія бываюць у жнівені месяцы. Дзеля чал века гэткая ноч была-б цёмнай як магіла, а ей выдавалася толькі шэрай. Кіська бегла праз адны гарод і сад, на мінуту затрымалася, каб апошні раз панюхаць свой любы куст, а пасьля старэнна пачала шукаць дарогі.

Як-жа знайсьці назад дарогу, якой яна ніколі ня бачыла. У зьвяроў

ёсьць інстынктыўнае пачуцьцё напрамку. У чалавека яно вельмі слабое, у коней вельмі вялікае, а ў кошак досьць значнае. Гэты таемны інстынкт цягнуў яе на захад, хаця і не саўсім выразна. Яна кіравалася ім, мабыць, толькі таму, што ў той бок вяла праездная дарога. Праз гадзіну яна прабегла каля аднэй мілі і апынулася каля ракі Гудзон. Нюх, колькі разоў падказваў ей, што яна ўзяла добрую дарогу. Яна пазнавала адзін пах за другім. Так і чалавек прайшоўшы адзін раз незнаёмаю вуліцаю, ня ўспомніць усіх, прыкметаў, але пазнае яе, калі зноў убачыць і скажа: „Так, я тутка ужо быў“. Кіська кіравалася найбольш пачуцьцём напрамку, а нюх сьцьвярджаў: „Так, ты йдзеш добра, мы гэтуды ехалі вясною“.

Каля ракі йшла жалезная дарога. Кіська ня магла бегчы далей на захад праз ваду; трэба было ськівавацца на поўначь ці на поўдзень. Гэтым разам інстынкт выразна падказаў ей: „На поўдзень“ і яна пабегла па сьцежцы паміж шынамі чугункі і плотам.

## Трэцяя калея жыцьця.

### IX.

Кошкі вельмі спрытна лазяць на дрэвы ці на платы, але для доўгай дарогі гадзіна па гадзіне, міля па мілі, патрэбны ня спрыт кошкі, а сабачая вытрываласць. Хаця дарога была роўная, але праз гадзіну яна прайшла ізноў ня болей як адну мілю. Яна ўжо змарылася і чула боль у нагах. Толькі яна пачала думаць аб адпачынку, як раптам да плоту, з другога боку, падбег сабака. Кіська пачула над самым вухам такі гучны і страшны брэх, што з упуду адскочыла і пусьцілася бегчы па сьцежцы, што толькі было сілы, аглядаючыся што момант ці ня пераскочыў сабака праз плот. Пакуль не, але ён таксама бег ўздоўж плоту і страшэнна брахаў. А Кіська ўцякала, адлучаная ад яго плотам. Брэх сабакі зьліваўся у адно з грокатам, які ўсё павялічаўся і ўрэшце абярнуўся ў праразьлівы гром. Паказалася сьвятло. Кіська азірнулася і ўбачыла не сабаку, а нешта вялізарняе, чорнае са страшэнным чырвоным бліскучым вокам. Яно даганяла, сапела, плявалася як цэлае стада кошак. Кіська напружыўшы ўсе сілы бегла да немагчымасьці шпарка, бо ўскочыць на плот яна ня мела адвагі. Шалёная шпаркасьць не памагла. Дзіватвор дагнаў яе, але ў цемры праляцеў міма і скора зьнік з вачэй. Ледзь дышучы Кіська ўпала на зямлю. З таго моманту, як на яе забрэхаў сабака яна зблізілася да дому на тры вярсты. Ей першы раз прыйшлося бачыць гэтае дзіватворышча, але яно было незнаёмым толькі для яе вока, носам яна пазнала яго і зразумела, што гэта йшчэ адна веха паказуючая дарогу да дому. Кіська наагул пазбылася многіх ранейшых страхаў. Яна зразумела, што баяцца ня трэба, што страшныя дзіватворы ня чэпаць яе, калі яна будзе йсьці каля плоту, ці ціханька ляжаць. Да раніцы яшчэ не адзін раз прышлося ей бачыць дзіватворы, але бязшкодна для сябе.

На пяродадні яна пры шляху, знайшла добрую кучку сьмяцьця і з попелу выкапала нейкія абьедкі. Дзень яна перабыла каля хлеву, дзе былі два сабакі і некалькі малых хлапчукоў, якія ледзь не забілі яе. Абставіны прыпаміналі ей родныя куткі, але ўсё-ж ткі яна ня мела ў праекце тутка застацца. Яе падганяла першае жаданьне і на чародны вечар яна ізноў пашла ў дарогу. На працягу дня яна некалькі разоў бачыла аграмадныя дзіватворы і ўжо на гэтулькі прывыкла да іх, што нават не затрымліваючыся бегла ўсю ноч. Чародны дзень яна правяла ў нейкай пуні, дзе злавіла мышанё а ноччу бегла далей. Нейкі сустрэчны сабака адагнаў яе назад на даволі значны кавалак дарогі і ей прышлося ізноў вяртацца па сваіх сьлядох. Сколькі

разоў яна зьбівалася з напрамку на крыжавых дарогах, але ў пару ськівровывалася каб ісьці як і перш на поўдзень. Днямі яна валондалася па пунях, хаваючыся ад сабак і хлапцоў, а ноччу ішла далей хістаючыся па дарозе, бо ногі яе ўжо адмаўлялі слухмянасьці. Усё-ж такі яна вярста па вярсьце пасовалася на поўдзень. Сабакі, хлапцы, цягнікі, голад; ізноў сабакі, хлапцы, цягнікі, голад — так чарадаваліся яе ўражаньні. Аднак нос, час ад часу, казаў ей:

— Вось пах, які мы, бязумоўна, чулі вясною.

X.

Прайшоў тыдзень. Кіська бяз стужкі, брудная, зморaная, дабралася да Горлемскага мосту. Хоць гэты мост аддаваў шмат якімі прыемнымі пахамі, але яна нат ня глянула на яго. Палавіну ночы яна хадзіла кала яго ўзад і ўперад па беразе, ня бачуны другой дарогі праз раку, як праз розныя масты. Нічога цікавага яна ня бачыла і толькі мела здарэньне пераканацца, што тутка і старыя таксама небасьпечны, як і малыя хлапцы. Так ці іначай прыйшлося ізноў вярнуцца да Горлемскага мосту. Ня толькі пах яго быў знаёмы Кісьцы, але час ад часу, калі па ім пралягаў Аднавокі, раздаваўся асаблівы гул, напамінаючый ей вяснавую паездку. І, вось, у ночнай цішы яна адважылася перайсьці праз мост. Не прайшла яна і трэцяй часьці, як на сустрэч ей паказаўся грымучы Аднавокі. Яна вельмі спалохалася, але ведаючы, якія яны ачмуцелыя і сьляпыя, скочыла ў бок і прыхілілася да бакавой бэлькі. Разумеецца, шалёны дзіватвор не заўважыў яе і пранёсся міма. Усё было-б добра, але Аднавокі вярнуўся назад ці, мо паслаў замест сябе свайго двайніка.

Кіська скочыла на доўгую сьцежку каля рэльсаў і пусьцілася бегчы да роднага берагу. Яна дабегла-бы да яго, каб неўспадзеўна з таго боку, з шумам і сьвістам не паказаўся-б трэйці чырвонавокі волат. Кіська бегла са ўсяе сілы, але цяпер яна трапіла паміж двох ворагаў. Нічога другога ня можна было зрабіць, як адважна дзыгануць з гэтага мосту—куды, яна сама ня ведала. Дзыг! Гу—у! Шлеп! І яна апынулася ў глыбокай вадзе, ня вельмі халоднай, бо гэта было ў жнівені, але бр-р! — агіднай. Порскаючы і баўтохаючыся вынырнула яна на паверхню, азірнулася, ці ня плывуць за ею дзіватворы, пачала грабсьці да берагу. Яна ніколі ня пробавала плаваць, але ўсё-ж такі плыла спрытна, бо каты, як плаваючы так і бегаючы бываюць заўсёды ў аднальковым палажэньні і так сама перабіраюць нагамі. Яна ўпала ў няпрыемнае для сябе мейсца; разумеецца яна хацела выйсьці адтуль, але вышла што паплыла да берагу. Да каторага берагу? Любоў да роднага, непагрэшная: для Кіські істнаваў толькі бераг паўднёвы, як бліжэйшы да яе роднага кутка. Яна ўся мокрая выбралася на яго праз кучы вугальля і сьмяцьця і вымурзалася так, што ўжо далёка ня мела каралеўскага выгляду.

Ачуняўшы ад першага спуду, Каралеўская Бадзячка пачула, што купаньне пайшло ей на карысьць. Цела яе пасьвяжэла, а душа радавалася. Ці-ж не ўдалося ей перахітрыць гэтых трох вялізарных дзіватвораў?

Пачуцьцё, памяць, інстынкт падказвалі ей, што трэба йсьці проста, але наўкруг было шмат гэтых Аднавокіх Равуноў, і добры розум казаў ей, што трэба павярнуць ў бок і ісьці ўздоўж ракі, дзе так многа знаёмых крэпкіх пахаў.

Такім парадкам яна абмінула ўселякія незразумелыя ей дзівы сустрэчаныя на масьце і ў дарозе.

Ужо болей трох дзён яна спазнавала многалічэбныя і хітра складзеныя небасьпекі, якія сустрэчаюцца ў доках Істр-Рывер. Адзін раз яна зьнячэўку трапіла на паром, і яе перавязьлі на Лонг Айланд, але з чародным паромам яна, ўрэшце, дабрыла да знаёмага мейсца, дзе яна ўжо начавала яшчэ да часу свайго першага ўцяканьня. З гэтай хвілі яна йшла шпарка і пэўна. Цяперака яна цьвёрда ведала, куды і як трэба ісьці. Яна павялічвала крокі, пачуваючы сябе шчасьліваю. Яшчэ хвіліна і яна апынецца на сваей мілай бацькаўшчыне ў старым панадворку. Зараз за варотамі ўжо відаць будзе будынкі.

Аж раптам нічога няма. Ніводнага будынку!

Ціська вачам сваім ня верыла, але прыйшлося паверыць. Сонца йшчэ ня ўзышло, і праменьні ня маглі асьляпіць яе. На мейсцы, дзе перш стаялі хаты, была вялізарная пустка, пакапаная ямамі і заваленая каменьнямі і рознай непатрэбшчынай.

Ціська абышла кругом, па наўдобінах і каля памосту вуліцы, яна цяміла, што тутка запраўды быў яе дом, што тутка жыў гандляр птушкамі; але ўсё шчэзла бяз сьледу, ня выключаючы навет і знаёмых пахаў. Ціську абхапіў безнадзейны сум. Галоўным рысам яе характару была прывязнасьць да мейсца. Яна ахвяравалася на ўсё, каб толькі вярнуцца да дому, які ўжо болей ня істнаваў. І цяперака яе гарачае сэрцэйка было разьбіта. Яна цягалася па нямых руінах ня знаходзячы патолі ні пракорму. Зьнесены быў цэлы шэраг будынкаў аж да самай ракі. Гэта ня быў пажар. Ціська пажар бачыла на сваім вяку. Не, тутка бытцам папрацавалі шмат Аднавокіх дзіватвораў. Ціська, разумеецца, ня ведала, што ад гэтага мейсца павінна была пачацца будоўля вялікага мосту.

Калі ўзыйшло сонца, яна пачала шукаць сабе прыстаньня. З боку стаяў бадай што ня парушаны будынак, і Каралеўская Аналоста пайшла да яго. Ей гэты будынак быў крыху знаёмы, але тамака, супроць уселякай спадзеўкі, апынулася цэлая стада кошак, якія, як і яна сама былі выгнаны з першых сваіх сяліб. Калі выносіліся скрынкі са сьмяцьцём, дык на кождага з іх накідалася па некалькі бадзячак. Гэта было прыкметай голаду і Ціська праз колькі дзён змушана была пайсьці на Пятую Авэнью шукаць сваю другую кватэру. Знаёмы панскі палац быў зачынены наглуха. Яна прачакала бадай што ўвесь дзень, але ей дасталося ад брамніка у сіняй сьвітцы, і яна пасьпяшыла вярнуцца ў панадворак, дзе жылі бадзячыя кошкі.

Прайшоў верасень і кастрычнік. Шмат кошак здохла з голаду ці так аслаблі, што ня маглі выварачвацца ад сваіх звычайных ворагаў і сталіся іх ахвярамі. Аднак маладая і дужая Ціська засталася жывою.

Тым часам на зруйнаваных мясцох сталіся вялікія перамены. Хаця ноччу, калі Ціська першы раз гэта ўбачыла, наўкруг была ціша, але затое ўвесь дзень там кіпела работа. Да канца кастрычніка ўжо была скончана высокая будоўля. Бадзячая Ціська пачуваючы страшэнны голад, падкралася да вядра, якое нейкі нэгр выставіў за дзьверы. На жаль гэта было вядро не з памыямі, а толькі з бруднаю вадою ад мыцьця падлогі. Ціська нахмурылася. Але на пярэвясьлі вядра яна абнюхала сьляды знаёмага даткненьня. Покі Ціська іх абнюхвала, зноў выйшаў праваднік пад'ёмнай машыны—нэгр. Ня гледзячы на сіні жупан, яго асоба сьцьверджала ўласнасьць сьлядоў на пярэвясьлі вядра. Ціська перабегла папярок вуліцы.

—Запраўды, бытцам Каралеўская Аналоста! Эй, Ціць, ціць! Кс—с—с! Ідзі сюды. Ціць—ціць! Ты напэўна вельмі галодная.

Галодная? Тяк, яна ўжо некалькі месяцаў сытаю ня была. Нэгр увайшоў у дом і вынес частку свайго сьнеданьня.

— Эй, кісь—кісь—кісь—кісь!

Гэта была вялікая прынада, але Кіська не давералася нэгру. Урэшце ён паклаў мяса на брук, а сам стаў ў дзьвярах. Бедзячая Кіська зьбліжалася вельмі асьцярожна, абнюхала мяса, схапіла яго і ўцякла, як тыгрыца, каб бяз перашкоды зьесьці сваю здабычу.

## Чацьвертая каляя жыцьця.

### XI.

З гэтага пачалося новае жыцьцё. Калі голад даваў сябе знаць, Кіська падходзіла да дзьвярэй вялікага дому і, паволі, адпушчалася ў сваім недаверры да нэгра. Перш яна яго не разумела і лічыла сваім ворагам. Цяперака ён стаў яе прыяцелям ды яшчэ адзіным.

Цэлы тыдзень ей шанцавала. Сем дзён і сем абедаў! Урэшце, ў апошні дзень, зараз-жа пасьля абеду, яна выпадкова знайшла клустага здохлага пацука. За ўсё жыцьцё яна ніразу не задушыла вялікага пацука, але знойдзеную здабычу яна схапіла і панясла, каб схаваць на зап с. Яна пераходзіла праз вуліцу супроць новага дому, як раптам паказаўся яе закляты вораг — сабака з прыстані. Разумеецца Кіська кінулася да дзьвярэй, за каторымі быў яе прыяцель — нэгр. Якраз на той час ён выпушчаў добра адзетага пана, і абодвы ўбачылі кошку з яе здабычай.

— Глядзі, якая кошка!

— Так, Сах, — адказаў нэгр. — Гэта мая кошка, сах. Страх мышэй, сах. Усіх перадушыла, сах. Дзеля гэтага-ж яна і такая худая.

— Ты-ж ня давай ей здохнуць з голаду, — сказаў пан, як відаць гаспадар дому. — Ці-ж ты ня можаш яе карміць.

— Чалавек з пячонкаю прыходзіць акуратна, Сах. Чьверць таляра ў тыдзень,—сах,—сказаў нэгр, мяркуючы сабе, што ён мае права на тыя лішнія пятнадцаць цэнтаў, якія ён прыкінуў да запраўднай платы чалавеку з тачкаю.

— Добра, я буду плаціць,—згодзіўся пан.

### XII.

— Мяса! Мя—са! — разьлягаецца чароўны для кошак голас старога чалавека з пячонкаю, папіхаючага сваю тачку. Кошкі, як і перш, зьбягаюцца па яду.

Старому трэба памятаць усіх чорных, рыжых і белых кошак і, апрыч таго, іх гаспадароў. Загібаючы за рог вуліцы, тачка, згодна новаму разкладу, робіць астаноўку каля новага дому.

— Гэй вы, басота, разступецеся! — крычыць чалавек з пячонкаю, кійком разчышчаючы дарогу дзеля рабой кошкі з блакітнымі вочкамі і белым носікам.

Яна дастае больш кавалак чым другія, бо Сам (нэгр) сумленна дзеліць „зыск" са старым. Кіська са сваей порцыяй ідзе пад апеку вялікага дому, куды яна ўжо саўсім перасялілася.

Яна ўвайшла ў чацьвертую каляю свайго жыцьця пры такіх шчасьлівы[х] варунках, аб каторых нікалі і ня магла думаць. Спачатку ўсё ішло няздатн[а], а цяпераká ўсё спрыяла ей. Вельмі праўдападобна, падарожжа абагаціла я[е] розум, але ў яе была пэўная мэта, якой яна і дасягнула. Удалося ей такс[а]ма споўніць сваю запаведную крозу: зла віць верабья. Яна зла віла нават н[е] аднаго, а цэлых двох ў той час, калі яны заядла біліся на даждж авой рыне.

Бадай ці ловіць Кіська цяпераka мышэй. Аднак Нэгр, як толькі зной[дзе] дзе здохлую мыш ці пацука, зараз жа цягне на ганак і кладзе на відны[м] мейсцы, каб Кіська ня пазбавілася свайго харчаваньня. Мыш ляжыць, пок[ульня] ня прыйдзе гаспадар і ня ўбачыць яе, тагды нэгр просячы выбачаньн[я] прыбірае, пахваляючы лавецкія здольнасьці Кіські.

— Вось дык кошка, сах! Што значыць каралеўская кроў, сах. Гэта за праўдны зьвер на мышей.

Некалькі разоў у яе былі кацяты. Калі яны выраслі, нэгр не адзі[н] раз прадаваў яе каму-небудзь са спакойным сумленьнем. Ен добра ведаў, што Каралеўская Аналоста праз некалькі дзен вернецца назад. Напэўна, ё[н] зьбіраў грошы для нейкай добрай мэты...

Кіська прывыкла да пад‘ёмнай машымы і нават часамі ездзіць на е[й] ўверх і ўніз. Нэгр напорна даводзіць, што аднаго разу, ўбачыўшы з самаг[а] высокага паверху тачку з мясям, Кіська нейкім спосабам прыціснула кнопк[у] электрычнага званка, каб выклікаць да сябе машыну і спусьціцца ўніз.

Яна ізноў зрабілася пушыстаю і прыгожаю. Да гэтай пары яна ня толь[]кі належыць да ліку тых чатырохсот кошак, якія складаюць дабраны гурто[к] каля тачкі з пячонкаю, але навет лічыцца самаю выдатнейшаю сярод пэн[ых] сыянерак. Чалавек з пячонкаю выказывае ей надзвычайну пашану. Нава[т] расьпешчаная кошка крамніцы, якую кормяць сьмятанкаю і курчатамі, н[е] займае такога становішча, як Каралеўская Аналоста. Аднак ня гледзячы н[а] свой дабрабыт, высокае грамадзкае станвішча, знатнае імя і доўгі радавод, яна ня разумее большай прыемнасьці ў жыцьці, як швэндацца недзе па стрэ[]хах і задніх панадворках. Ды гэта і зразумела. У сваей душы яна засталася тэй самай бруднай, бадзячай кошкай. Пераклаў Н-ка.

---

ВЛАСТ.

# Лабірынты.

III.

Прачытаўшы дзіўную надпісь, я стараўся ўцяміць яе значэньне; і, мне здалося, што яна напамінае на права панующае ў гэтых падзямельлях. Ціж-бы „Падземны Чалавек“, згодна гэтаму праву, павінен быў, за раскрыцьце мне тайны, заплаціць сваім жыцьцём? Аднак, факты гаварылі, што ён стаўся: „другім піўшым з чары скрытай веды“. Мяне агарнула забабонная багавейлівасьць да акружаючых мяне мураў і рэчаў. Я пачуўся агорнутым з усіх старон таемнымі, сьвядомымі сваіх чынаў, сіламі. І гэты цёмныя пракаветныя сьцены, і чорны дубовы корст з астанкамі невядомага мне, аднак, безумоўна‘ геніяльнага духа, і гэта таёмная надпісь, і, ўрэшце, труп малавядомага, аднак, чамусьці, мне блізкага і дарагога чалавека, апутывалі душу тысячамі

..лых, але цягучых ніцей, невядомых мне тайнаў. А, галоўнае, я быў тут, ..тэтых лабірынтах, адзінай жывой істотай. Я абярнуўся, каб яшчэ раз гля..ць на мілае старэчае абліччa „Падземнага Чалавека"., і якое-ж маё было ..дзіўленьне, калі я яго ня ўбачыў на зямлі, дзе момант таму назад, ён ля..ў. Гэта апошняе страшэньна стрывожыла і парушыла мяне да апошніх ..ыбінаў усей маей істоты. Я яшчэ больш пачуўся бязпомачным і беззрадным ..путах невядомага. Уражаны новай тайнай, я, шукаючы свайго праваднiка, ..дняў уверх ліхтарню, аглядаючы склеп, але нідзе не было цела, якога я ..укаў. Затое, я толькі цяпер, заўважыў што памяшчэньне, ў якім я знахо..куся, мае трохкутную форму, трылук якой, звужаючыся, зыходзіўся ўверсе ..сокім скляпеньнем. Мне прыпомнілася, чытанае некалісь, апісаньне славян..ай сьвятыні ў Рэтры, якая была збудавана трыбочнай фігурай, як і сама ..ліба пры ей, якая мела з трох старон агароду і тры брамы: на ўсход, ..ўдзень і поўнач. Спомнілася мне адна дыскусыя, ў кружку маладзежы і як ..важаны вучоны, які быў сярод нас, даводзіў тады, што таксама ў трыкут..ю фігуру была будаваная, слаўная, апеяная Гомэрам Троя, што ўсе баж..цы, ці то „багоды" старой славянскай веры, пасьвячоныя Найвельшаму, ..цьку багоў, зваліся Трoямі. Але хутка мысьль мая вярнулася ізноў да ..айго незавіднага палажэньня ў гэтых скляпох. І я толькі было прыняў, ў ..бе, пастанову вяртацца назад тэйсамай дарогай, як, раптам, нешта скрыг..ула за мной. Пахопліва абярнуўшыся назад я ўбачыў разсунутую сьцяну, ..паміж двох яе палавіц, на асноведзі аксаміста чорнай цемры праходу, ча..вечую постаць ў белай вопратцы і ў белым, мітрападобным, клабуку на ..лаве. Я стаяў як амярцьвелы і пэвен быў, што гэта галюцынацыя. А, тым..сам, белая постаць з павагай пачала да мяне набліжацца. Узіраючыся, раз..ыранымі вачамі, на яе, я, з нямалым зьдзіўленьнем, распазнаў абліччa Івана ..анавіча. Першым маім водрухам было выразіць сваю радасьць і падзяліцца ..ражытымі трывогамі, але ён, як бытцам, згадаўшы маю мысьль, урочыстым ..адняцьцем рукі стрымаў мой парыў, кажучы:

— Не нарушай павагі месца гэтага, мовай сваіх турбот. Хадзі за мной!...

І мы, моўчкі, сьціраваліся ў праход, з якога выйшаў Іван Іванавіч. Ен ..шоў наперадзі, а я за ім. Цяпер я толькі разгледзіў, што белая яго воп..атка была ў форме доўгай, шырокай кашулі з шырокімі пурпуровымі шля..амі на падале і рукавох; клабук быў, так сама, падбіты зьнізу, на адварo..ах брыля, пурпуровай тканінай. Ішлі мы разьмеранай, роўнай поступьпю, ..укавыгібістым шырокім праходам, на сьценах якога меліся пасьвяўшыя ад ..асу малюнкі і нейкія надпісі, акружаныя арнамантамі. Памост быў зложан .. чатырохкантовых камянных плітаў. Гэтак у, маўчаньні, прайшлі мы ня менш ..00 крокаў, калі, ўрэшце, станулі перад глухой сьцяной, якой канчаўся ..раход.

Іван Іванавіч падняў руку ўверх і, ляскай, на якую апіраўся, моцна ..аціснуў на розэтку над круком ўпраўленьм ў скляпеньне. Глухая сьцяна, ..ерад якой мы стаялі, спярша дрыгнула, а пасьля, пачала звольна апускацца ..аперад, і, перад намі, адкрылася круглая саля, сьцены і столь якой пакрыты ..ылі рысункамі, а памост мазайкай. Саля была саўсім пустой, толькі с пра..вай стараны, пры сьцяне, стаялі тры камянныя седзішчы.

— Во, тут, на гэтых сьценах,—пачаў Іван Іванавіч,— забразавана істота ..нашай старой веры: якая апіралася на траістасьці ўсяго існуючага. Уверсе— ..выабражаны сілы нябесныя, ў сярэдзіне—жыхары зямлі з іх турботамі, ў ..нізе—загробны сьвет з яго валадарамі і жыхарамі. Кожды з гэтых сьветаў,

паводле старой навукі, распадаўся ў свой чарод на тры істотныя характары. Ўсе сыстэмы рэлігійныя, ад пачатку існаваньня ў чалавецтве сьвядомай мысьлі, прызнавалі гэту траістасьць рэчэй. Халдэо Вавілонскія сьвятары,—якія за многа тычалецьцяў да нас, слылі лепшымі ў сьвеце астраномамі, лепшымі пры гэтым знаўцамі матэматыкі, без якой нямагчыма астраномія, і да гэтага старэйшымі носьбітамі веды людзкой,—ў лік сваей Тройцы ставілі багоў Ану, Эа і Бела. Ану—гэта валадар гвяздзістага неба, першародны, старэйшы, бацька багоў. Эа мудрэйшы, лепшы з багоў, прасьвяцiцель і прадатнік ўсяму сьмяротнаму. Бела—сын Эа, каторы вывёў зямлю з цемры і хаосу, аддзяліў адны ад адных ўсе постаці і адмены, з каторых злажыўся сьмяротны сьвет, якім мы яго цяпер знаем. У Індыі Тройцу складаюць Брама, Вішну, Шыва; функцыі прыпісываныя асобам гэтай Тройцы тыя-ж самыя, што і ў халдэйцаў. Ня чужа было і грэцкай мысьлі паняцьця траістасьці сілы ўладаючай сьветам, чым галоўна цікавілася школа платонікаў, ад якіх догма Тройцы перанята была хрысьціянствам.

Пасьля гэтага ўступу Іван Іванавіч падняў руку ўверх паказуючы на малюнак і казаў:

— Пасярэдзіне скляпеньня бачым мы тут тры постаці славянскай, а—лепей—Дако-Гецкай Тройцы. Першая з іх ёсьць Найвельшы (Optimus) бацька багоў, нямаючый найменьня. Імёны даваныя яму рознымі народамі: Баг, Бог, Дэос, Дзевае, Готт, Элёгім, Аллах—Адонай, гэта ўсё яго прыметнікі, як і нашае „Найвельшы“, бо імяні яго יהוה нельга вымовіць. Чэсть яго, ў нашым народзе сягае ў вельмі глыбокую мінуўшчыну. Можна сказаць, што большасьць грэцкіх мітаў цесна зьвязана з нашымі прашчурамі Гетамі, з якімі на берагох Дунаю Грэкі вельмі рана саткнуліся і, наўзаемна, дзяліліся тайнамі веды. Навет наш сягоняшні край быў вядом грэкам, ў той час, калі тварыліся ў іх першыя міты. Відаць гэта з Гомэра і іншых паэтаў старой Грэцыі, асабліва-ж з аповясьцяў аб Апаллоне і сыну яго Фаэтоне, якую аповесьць перадаў нам пекным вершам рымлянін Віргілій; з Мітаў, аб Промэтэю, Орфэю, Эскуляпе і інш. От-жа ў старагрэцкіх пісьменьнікаў знойдзем, што славяне верылі ў загробнае жыцьце і па сьмерці сваей мелі надзею бытаваць разам з Зямельчыцам*), рэлігійным рэформатарам які жыў за 600—650 гадоў да Н. Хр.**).

Другая асоба славянскай Тройцы, адпавядаючая Халдэо—Вавілонскаму

---

*) **Ад выдавецтва.** Мы дзячымі н[illegible]аўніку нашага выдавецтва праверыць паданас тут аб Зямельчыцу, які даў нам такую справу: „Сказанае аб Зямельчыцу вядома вельмі ўсім старасьвецкім пісьменнікам: Herodotus IV, 93 94; Arian expedit Aleksandri lib I; Hellanikus (etymolog. magn. voce); Pomp. Mela II, 2; Strabon VII, 2977. Аб славянскім народзе Геты гаворыцца, што гэта наймужнейшы і наясправядлівейшы народ з паміж Славянаў; вераць, што па сьмерці ідуць да свайго бога Zamolxisa, які лічыцца імі за тую-жісоту, што і Gebeleisis (Heredot). Некаторыя грэкі даводзі і, што Zamolxis Зямельчыц быў Піфагоравым нявольнікам і піфагораўскую навуку аб загробным жыцьці пашырыў пам[illegible] сваіх аднапляменцаў—Гетаў (Strabon). Што, безумўна, памылкова, бо Зямельчыц жыў куды равей за Піфагора, найменш сто ці паўтараста гадоў. Памылкова также цьверджаньне Эродэта, што Геты Gebelejsisa (Найвельшага—Optimus) мелі за адну і тую-ж асобу з Зямельчыцам, які пашырыў навуку аб адзінай першапрычыне“, а знача быў толькі абагомленым чалавекам З навейшых пісьменнікаў аб Зямельчыцу (Zamolxis) пісалі: de Brosse, і d'Anville ў memoires de l' acad. des inscript. t. XXXV et XXV ды Ernest Gotfried Grodeck у развагах, de immortalitatis quam Getis persuasisse dicitur Zamolxo ratione; а такжа ў яго: Graecorum de Zamolxide fabule.

**) **Ад выдавецтва.** З пісьменніка Мэнандра (323 года Н. Х.) даведываемая што Зямельчыц пашыраў навуку вельмі падобную, ў агульных рысах, да Буддызму, але вынікаўшую з недраў мысьлі Дако-Гецкага племя.

Эа, індускаму Вішну—гэта Правечны Кон, які даў усяму жывому законы жыцьця, назначыў кон, долю і акрэсьліў канец, скон *). Як і ўсе багі, Правечны Кон меў многа розных эпітэтаў, якія няведамі прыймаліся часам за яго ўласныя імёны. Да гэткіх імён яго належаць: — Прова, Права, Тур. У аднэй старадаўнай саксонскай кроніцы маюцца малюнкі старaславянскіх багоў, з часаў хрышчэньня славянаў, між імі рысунак стода з подпісам „Prouo“. Гэты рысунак сьведчыць, як хрысьціянскія апосталы таго часу былі пранікнуты мозаізмам, ды вавілонскімі харубамі і шайтанамі, а як мала ведалі тое, што нішчылі. Бо Кон-Прова-Тур ня меў стодаў: яму пасьвячаліся сьвятыя дубы і гаі. У гэткія месцы, абгароджаныя і маючыя двое, наўсупроцьных, варотаў, схадзіліся, ў канодныя дні, старшыны народу спраўляць суды. У здарэньні калі каго прасьледавалі, мог скрыцца ў загароду, хоць-бы ён быў ворагам, яго ніхто ня сьмеў крануць: бо права, праўда не на перавазе фізычнай сілы, ані на гвалце грунтуецца.

Трэцяя асоба славянской Тройцы, адпавядаючая вавілонскаму Белу і індускаму Шыве — ёсьць Сіціўрат, Сіва. Халдэйцы лічылі Бела богам апраметнай, царства вечнай цемры, дому: „ў які ўсе ўходзяць, але скуль ніхто не выходзіць“. Індусы Шыву называюць „мсціцелям“. Цікава пры гэтым адмеціць адну асаблівасьць, гэта тое, што індусы аддавалі чэсьць Шыве—Ішвары ў мясцовасьці Рудры, а славяне—ў Рэтры. І каб мы ня ведалі аб тым, што Дако-Гецкія міты праз грэкаў сягалі да Вавілоніі і Егіпту з аднэй стараны, а да Індыі з другой,—то можна было-бы падзіўляць нязвычайную прыпадковасьць ў сазгуччы.

У санскрыце маецца эпітет даваны Шыве — „Гары“, які вельмі сходзен з нашым Яры, Ярыла, Яравід. Сымвалам Сіціўраўта (жыцявароту) —Ярылы быў нязгасны агонь Жывец, Жынч, Зьніч (зьнікомы), які меў свае вечныя аўтары паўсюдна, куды сягала вера славянская. Летапісі ўпамінаюць аб таніх вечных агнях у Вільні, Вялікім Ноўгарадзе, а ў заходных славянаў у Жніне, Гнезьне і Жуліне на Паморры. Усюды, дзе істнуюць, або істнавалі першыя хрысьціянскія сьвятыні, пасьвячоныя прароку Ільлі, яны былі будаваны на мясцох вечнага агня. Бо Ільля заступаў, ў пачатках хрысьціянства, Ярылу. Цэркві такія былі ў Менску, Вітабску, Смаленску, Полацку, і др. гарадох. Сьвятары служыўшыя „Яраму“ называліся— вядунамі, вядачамі, вятачамі, вяцьвягамі, бо яны прарочылі будучае. Ніхай ня дзівіць, што сіле мсьцівай надаваўся эпітэт белага, яркага. Гэта дзеля ўласкаўленьня яго. Бо-ж дагэтуль, па старой памяці, народ называе агонь—багач, цяпло, сьвятло каб ня ўквяліць грознай сілы. У мысьль гэтага страшны Лясун носіць эпітэты—Дабрахот, Зялун; а чорны балотны дух „Бялун“, „той“, „гэты“ і, ўжо пад ўплывам навейшага сьветагляду,—„нячысьцік“.

Сіле першапрычыннай „Найвельшаму“ належна пашана ад ўсяго жывога. Ен асновапаложнік, ён той, аб каторым пяе браман ў сваіх гімнах:

Я носьбіт і дарога, сьведка і князь,
Айзычна, прыяцель, прытулак;
Першапрычына і цэль, і істасьць рэчэй,
Я і захоўнік і вечнае семя.

Калі Орфэй, які быў з народу Гетаў, сяліўшыхся пад той час у Фракіі, панёс у Грэцыю навуку аб адзіным Найвельшым, то Грэкі пыталі аракула,

*) Грэцк. Kronos (час). Кон—круг,—круг гадавы; як нямецк. Gott—(год).

што такое бог, якога прапаведуе Орфэй? I аракул назваў Найвельшага: сьвятлом (rad) мысьлю-словам (logos) і крыніцай жыцьця (pneuma), якія імынё ны азначаюць—адзіную першапрычыну, сьвятло духа, радасьць бяз мучэньня, першакрыніцу веды ўвенчаную вышэйшай праўдай.

Правечны Кон даў права, закон людзям, зьверам, птахам, полазам, рыбам, расьцінам і наагул ўсяму, што жыве, родзіцца і паміраё. Устаноўленыя ім законы вечны і непарушны. Галоўнае месца ў нашым краю, дзе складалі яму чэсьць быў Тураў і мясцовасьць Скрыгалава, недалёка ад Турава, дзе дагэтуль захаваліся рэшткі т. зв. цыклёпічных будоўляў, ў форме аграмадных камянных блёкаў. Сымвалам справядлівасьці ў славянаў лічыўся белы бык—тур.

I хоць даўным-даўно забылі нашы людзі старых багоў, але Палеская (горадзенская) зямля дагэтуль мае ў сваім гэрбе тура, сымвал Правечнага Кону.

Пад гэтай Тройцай бачым мы, ніжэй, сем асоб з іх сымваламі гэта ёсьць сем галоўных сіл ўладаючых сьветам. Першая—Кон, Конязь і яго сымвал сонца; другая—Княжыч або Месяц з сымвалам сваім—месік ў маладзіку; трэцяя—Ярыла і сымвал яго гвязда Марс, чацьвертая—Радзігост і яго сымвал гвязда Мэркуры; пятая—Пярун-Грамавік; шостая Грамавіца і яе сымвалы гвязда Вэнэра і пташка зязюля; сёмая—Лада, Ладон і яго сымвал гвязда Сатурн. Кождай з гэтых сямёх асоб пасьвячаны адзінь дзень тыдня, аб чым сьведчаць рунічныя надпісі пад кождай асобай. Нядзеля—соўнік, панядзелак—месіч, аўторак—ярэц, серада—радаўнік, чэцьвер—пярунец, пятніца—громніца, субота—ладзіч. Ніжэй гэтых сямёх асоб маецца дванадцаць сымвалаў азначаючых 12 знакаў Зодзіяка, а пад імі чатыры ветры бытуючыя на чатырох канцох зямлі: Усток, які сухасьцю тхне; Ірэй, прыносячый цяпло; Сутон, навеваючый хмары і дождж; Сівер, прыносячый сьцюжу.

Сярэдні шлях малюнкаў завіраў ў сабе сцэны з жыцьця людзей, зьвяроў, птахаў, рыб, расьцінаў і інш, на зямлі, паветры ў вадзе, з іх параменамі і бытам.

У самым нізе было выабражана царства сьмерці, дом вечнай цемры з яго жыхарамі. На першым пляне былі дзьве галоўныя фігуры: Люцец, Люты, (Pluto), абоКашча Бязсьмертны і яго жана-Марва. Першы выяўляў сабой худую, з вострымі людзкімі рысамі і злымі вачамі, пачвару, другая—мела старэчую жаночую галаву на якой, замест валасоў, зьвіваліся сыкучыя зьмеі. Яе мясістае тулава апіралася на чатырох лапах і заканчалася драконаўскім хвастом. Па-за гэтымі галоўнымі постацямі відналіся пачварныя духі краіны сьмерці і безканечны лік бледных людзкіх постацей.

Мазайка памосту пакрыта была сымволічнымі знакамі, значэньня якіх я ня зняў і не адважыўся спытаць аб іх.

— А цяпер, — сказаў Іван Іванавіч, — каб пасунуцца далей ў лабірынты, нам трэба сесьць у гэты крэслы.

## IV.

Ачараваны веліччу абразоў развінутых Іванам Іванавічам, я стытаў яго:

— Чаму-ж ўсё гэта зяняпала, чаму забыта?

I Іван Іванавіч зказаў:

— Гэродот апавядае, што паўночныя краіны Эўропы былі найлюдней-

ымі, пасьля Індыі. Паўночныя народы, якіх звалі Гіпэрборэйцамі, займаліся лавецтвам, скацежніцтвам і ратайствам. Знալі рамёслы і асабліва любаваліся ў пазнаньні прыроды, а дзеля гэтага былі носьбітамі, высокай веды. З берагоў Гэродотаўскага мора, цяперашняга Палескага краю, паходзіў вялікі Індускі рэформатар—Рама. Олен гіпэрборэец вывеў з поўначы калонію вучоных, якія сталіся ў Грэцыі кастай сьвятароў і асновапаложнікамі чэсьці Апалона і Дзіяны ў Дэлос. З поўначы, са славяна-гецкай зямлі, прыбыў у Грэцыю Орфэй, заснавец гарадоў, вучыцель мастацва і рамёслаў. С поўначы занёс Промэтэй сьвятло, за што быў няміласэрна пакараны.

Промэтэй, першы цывілізатар Грэцыі, прыкаваны за гэта да Каўказскай гары, паводле слоў Эсхілеса, жаліўся:

„Багі, мне дзеецца крыўда! Паслухайце, што я даканаў дзеля сьмяротных. Дзякуючы мне, са зьвярат, якімі былі, сталіся людзьмі. Сьляпыя, глухія, як мары яны туляліся без правоў і ладу, ня ўмелі будаваць дамоў, пячэры былі ім адзіным прытулкам, цягнулі жыцьцё няпэўнае; не разрожнівалі часу і пор году. Я першы навучыў іх пазнаваць ход гвёздаў, навучыў іх знакаў пісьма, знакаў лічэньня, абдарыў іх памяцьцю, маткаю муз, навучыў іх лавецтва. Зашто-ж карае мяне завісны Зэўс? Ці-ж бы за сьвятло зблıжаючае людзей да багоў?!“

Грэцкія пісьменьнікі самі сьведчаць, што жыўшыя на поўнач ад іх, паўночныя народы занясьлі ў Грэцыю ня толькі некаторыя мастацтвы, але і цэлую рэлігійную сыстэму, навукі і ўмеласьці. Славянскія народы, як прыкладам.—Курэты, Квірыты або Крывіты, —ўжывалі рунічнага пісьма, за доўга, да прыбыцьця ў Грэцыю фэніцыянскага Кадмуса. Іхнія будоўлі напаміналі цыклапічныя, адзначаючыся нязвычайнай трываласьцю. У першых іхніх сялібах, прыкладам, на горах Олімпійскіх, Гэліконскіх і Пандэйскіх насамперш зараджаецца рэлігія, музыка і філасофія, якой пасьля славілася Грэцыя. З гэтуль выходзіць Апалон, які займаўся тут пастырствам. Орфэй (orfeos —цёмны), праўдападобна сьляпы, як Гомэр, сваей вымоўнасьцю аблашчываў дзікіх зьвяроў і лагодзіў дзікасьць тубыльчых барбараў. На чароўны, акудны гуд яго ліры, палі зьмяняюцца ў гарады (грэцк.: горад—paleis). Ален, Тамарыс і Лінэй, так сама як Орфэй, сваімі прамовамі, скланяюць тубыльцаў пакінуць людзкія ахвяры багом, а, здаецца, і вырачыся людаедзтва.

Але ёсьць народы, як і паасобныя людзі, празначаныя быць ня толькі мэссыямі чалавецтва, але і яго адкупіцелямі. Да гэткіх належыць народ Гетаў, з усімі яго галінамі. І мы бачым: Промэтэя, за яго дабрадзействы выказаныя людзям, расьпялі на каўказскай скале. Орфэя разьдзерлі пьяныя, ўпаўшыя ў шал, кабеты. Фосьційскія Пэлазгі, за недаверства паганізму былі пабіты грэкамі і патоплены ў моры. Троя, славянская сяліба між грэкаў, збурана Грэкамі. Урэшце Грэкі, падбіўшы сваіх даўных вучыцялёў і цывілізатараў, нішчучы, стараліся іх зьняславіць перад гісторыяй, няслушна прыпісваючы ім нялюдзкія абычаі і чараўніцтва.

Перш, чым стаўся носьбітам веды і задаўся мэтамі мэсыянізму, народ Гетаў павінен быў прайсьці сам рад ўнутранных перэабражэньняў і рэформ.

Першым рэфарматарам быў Зарада. Да яго істнавала ў Гетаў супольнасьць кабет і маемасьці. Народ займаўся толькі лавецтвам. Ен навучыў ратарства і завёў свабодны выбар жон і жонамі мужоў, раз кождага году. Штогодна меў права муж зьмяніць жонку і жана мужа. Дзень гэты быў названы Купальлем, дзеля таго, што ў гэты дзень павінны былі кандыдаты да жанідзьбы адбыць ачышчэньне праз агонь і купаньне ў вадзе. Кождая

пàра магла мецъ сваю ўласнасьць і аддзяліцца ад грамады. Ніхто ня мог карыстацца чужой працай. Кожды пілнаваў ладу ў сваей сямьі і дома быў поўным сувэрэнам. За крыўды зробленыя суседу, караў сход суседзяў. Але семьі пачалі множыцца і бацькі, мала-памалу, ўстанавілі патрыярхат, неабмежаную нічым ўладу галавы сямьі над ўсімі семьянамі. Прычым патрыярхі няахвотна выпушчалі каго-колечы з сямьі і семьі разрасталіся да 100—200 душ. Уласнасьць у семьях сталася сямейнай ўласнасьцю, або іначай кажучы, ўласнасьцю патрыярхі, як і ўсе кабеты сямьі. Пайшло агульнае нездаволеньне.

У гэтым часе абьявіўся другі рэформатар Багавей, які высунуў на першы плян касту сьвятароў. Апавешчана была сьвятарская дыктатура; зямля, як належачая да Бога, была аддадзена на ўласнасьць галоўнай сьвятыні, а з яе раменьня патвораны былі па ўсім краю правінцыянальныя сьвятыні. Усе жыхары, і бацькі і дзеці, павінны былі нараўне працаваць для багоў і сьвятынь. Як найсьвяцейшая праца была палічана праца ратарская. Сымвалам яе ўстаноўлен быў белы бык, які атрымліваў асаблівую пашану пры сьвятынях. Пры гэтым ладзе хутка ратар сам стаўся паніжан да безгалосай скацежыны, за якую думае гаспадар. Каб патушыць нарастаючую рэволюцыю сьвятары пайшлі на ўступкі: прызналі роўнае права з сабой галовам родаў. Утворан быў духоўна-арыстакратычны урад, які прыкрываючыся воляю багоў выдаваў, ад іх імені, свае загады, маючы, перш за ўсё, на мэце свае карысьці. Гэта тройца—духавенства, старшыны і багі—моцна і надоўга селі на карк рэшты народу. Але ў гэтым часе пачалі адбывацца напады суседніх качавых народаў, абарона ад якіх вытварыла, мала-памалу, трэцьці стан—вайсковы. У суполку—багі, сьвятары, старшыны,—павінны былі быць прынятымі і вайскоўцы.

Калі мы прыглядзімся да зьместу нашых народных казак, то гэту гісторыю мы знайдзем там перададзеную ў сымвалах. У селянскай сямьі, прыкладам, родзіцца які небудзь Кацігарошак, найсільнейшы за ўсіх, якія існуюць сілачы ў сьвеце. Падросшы ідзе нішчыць зло на зямлі і, памалу, дабірае сабе яшчэ двох, а часам трох асілкаў, якія ўрэшце робяць паміж сабой змову, каб загубіць яго і закідаюць ў бяздонную, бязвыходную пропасьць. Але Кацігарошак, раней-пазьней дабываецца з пропасьці і, пасароміўшы сваіх сяброў, бярэ ў свае рукі кіраўніцтва над сьветам, якому дае спакой і шчасьце.

Пад панаваньнем старшын і духавенства, змацаваным вайскоўцамі, ратары у грэцкай сымболіцы прыбіраюць постаць аднавокага цыклопа, а пазьней дурнога і сьляпога Паліфэма.

Але яшчэ не канец на гэтым. Чужаземцы, прыйманыя сьпярша як госьці, пачалі паняваліваць славянскія народы і, памалу, абяртаць ў сваіх няволькаў. Вышэйшыя клясы, арыстакрація і духавенства, зьліліся з пануючымі прыходцамі.

Тут мы маем такую самую гісторыю, як і ў Італіі, дзе, за многа гадоў да заснаваньня Рыму, жыў высокакультурны народ Этрускі. Чужаземныя дружыны паняволілі іх, абярнулі ў сваіх няволнікаў і пераняўшы ад іх културу, ачарнілі Этурскаў перад гісторыяй як дзікіх і нічога ня вартых людзей. Аб дзівах мастацтва, промыслаў і навук, аб стане высокае асьветы ў Этрускаў, мы сягоньня даведываемся толькі з раскопак іхніх магілішч і гарадзішчаў. Цывілізацыя Этруская загінула ў войнах прыходцаў з мясцовым жыхарствам. А, пасьля, за часаў Сцыльлія, безміласэрна, разам з выдатнейшымі мясцовымі людзмі, былі нішчаны ўсякія помнікі этрускай культуры, іх кнігі і творы іхняга генія. І этруская култура заняпала навекі. Рым пакрыў яе маўчаньнем, або сыпаў лаянкай і зьнявагай.

Пад ударамі чужазэмскіх наезднікаў заняпала і наша культура, а асабліва, ў часе хрышчэньня норманамі славянаў.

Трэба памятаць што міфалогія многіх народаў нічога супольнага з тэасофіяй ня мае, як прыклад можа служыць лацінская міфалогія. Лічу патрэбным гэта зазначыць дзелятаго, каб стала відней, што з нашай міфалогіі належыць да тэасофіі, а што зьяўляецца толькі сымволам пройдзенай народам гісторыі.

Есьць апавяданьне аб Сатурне, што за яго панаваньня быў на зямлі век залаты. Сатурн—бог патрыцыяў. Легенду гэту, ведама, ўлажылі патрыярхі, спамінаючы сваё даўнае і безграмічнае панаваньне. І дармо некаторыя хочуць бачыць у гэтым пэсымізм клясычных народаў, якія, кладучы сьпярша век залаты, пасьля сярэбраны, медзяны, ўрэшце—зялезны, хацелі, бытцам, зазначыць, што—чым далей, тым горш на сьвеце. Не, гэту гісторыю трэба паставіць ў саўсім другую плашчыню.

Сатурн пачаў есьці сваіх дзяцей.

Гэту басьню выдумала ўжо каста сьвятароў, сьпіскуючы супроць ўсеўладнага патрыярхату. Устаноўлены лацінскімі сьвятарамі пазьнейшы лад бас-аддаваў ўладу ў рукі багатых сямей „абдарыў старшых братоў правам боскім і людзкім „*jus pater*“ (згэтуль Юпітэр), крыўдзячы і вызуваючы з правоў малодшую, ратарскую брацьцю. Утварыліся патрыцыі (паны) і плебэйцы (мужыкі).

Патрыцыі тонуць у збытках і раскошах, плебэй ў заплату і падзяку за крывавую працу мае бізуны і розгі. І, вось, у лацінскім богабайніцтве апавядаецца, што Вэнэра, жонка плебэйскага Вулкана, стала задавацца з патрыціянскім Марсам. Вулькан ня могучы зьнясьці гэткай зьнявагі, абвівае сьпячых—Вэнэру і Марса—сеткай, падложанай пад іх, і выкідае іх на сьвятло, каб яўным ужо сталася, што плебс змаўляецца і бязкарна пасягае на правы патрыціяў. Гэта быў дакор зроблены Апалону, вартаўніку права. Увесь Алімп ўстрывожаны. Апалон памярцьвеў са зьнявагі. Адны багі сьмяюцца, а другія выказуюць злосьць і абураньне. Юпітэр страшліва загрымеў quos ego!... Бачучы аднак прыгожую Вэнэру гэтак зьняважанай, кажа: — „Годзі ўжо ей... На Вулкана німа спосабаў—quem ego!... За мяшаньнеся ў маю спрэчку з Юнонай, ў справе наданьня правоў плебэям, нядаўна так піхнуў яго я нагой на зямлю, што аж нагу ён зламаў.“

У трудным палажэньні Юпітару аж галава трашчыць. Як пагадзіць нязгоду ў народзе, пры ўсёўзрастаючых дамаганьнях чэрні, пры заўзятай упорчывасьці патрыціянскіх багоў?

— „Вулькан і Мэркуры ня даюць мне спакою, ад таго часу калі Марса з Вэнэрай удалося прылавіць у сетку.

— „Чатырох нас“,—кажа Мэркуры,—„стань Найвышэйшы па нашай старане, і народная справа будзе выграна“.

— „Найвышэйшай рады багоў не перагаласуем, шэсьць галасоў супроць пяці“,—адказаў Юпітэр.—„Што рабіць? Галава трашчыць, што рабіць! Тут мяне рве, ствару Мінэрву. Вулькан, валі молатам у галаву во тут, тут!

Вулькан выпаўняе загад. А калі, спужаныя відовішчам бацькаубійства, багі зьбягаюцца, бачуць: нованароджаную багіню ўзброенную ад ног да галавы, выходзячую з патыліцы Юпітэра. Вось і багіня мудрасьці—Мінэрва.

— „Плебэйцы дапамінаюцца правоў“,—кажа Мэркуры.

Сталі галасаваць. Шэсьць супроць шасьці!

— „Мне належыцца падвойны голас!“—крыкнуў Юпітэр.

І справа народу была выграна.

— „Дык занясі ім зямельнае права!“ крыкнуў Юпітэр.—„Сам пагавару я з Юнонай і, думаю што яна дазволіць, такжа права вольнай жанідзьбы“.

Мэркуры, які спаўняў абавязкі пачтара, панёс весьць на зямлю.

І плебэйцы атрымалі правы людзкія і цывільныя. А ўсё гэта сталася вынікам не перасьцераганьня правоў бажкамі, залётнасьцю Вэнэры і праз папусьціцельства Юпітэра, тлумачылі сьвятары.

Мэркуры, бог купецтва і прамысловасьці, носіць сьвіту на распашку, служыць усім хто плаціць: багом і людзём, небу і зямлі. Апякуецца зладзеямі і ашуканцамі.

Пад яго апекай вырастае новая арыстакрація—грашовая. У рады яе ўходзяць ўсе, кім апякуецца Мэркуры. І на правы для гэтага стану багі, ад імені сваіх кліентаў, патрыцыяў, павінны былі згадзіцца.

Не глядзя на тое, што даўно па свойму рашыў Юпітар зямельнае права, права гэта да сягоньня несправядлівае. І будзе датуль актуальным, пакуль кожды народ не станецца гаспадаром у сваім краю, пакуль кожды, хто палівае сваім потам загон, ня будзе праўным, прызнаным і ўсьвячоным правам яго ўладаром.

Гэты-ж час ўжо недалек!

(далей будзе).

---

А. БЯЛЕЦКІ.

# Стан асьветы ў беларускіх землях адыйшоўшых па 1-му разьдзелу Польшчы да Расіі.

Па першаму разьдзелу Польшчы (1772 г.) далучаны былі да Расіі: Латгалія, часьць Полацкага ваяводзтва (з правой стараны Дзьвіны), ваяводзтвы Вітабскае і Мсціслаўскае і часьць ваяводзтва Менскага. Гэта часьць Беларусі, была падзелена на сем правінцый, з якіх тры—Дзьвінская, Полацкая і Вітабская— далучаны былі да Пскоўскай губэрні, а з рэшты правінцый—Магілеўскай, Аршанскай, Мсціслаўскай і Рагачоўкай—утворана Магілеўская губэрня. У 1778 гаду правінцыі далучаныя да Пскоўскай губэрні, былі аддзелены ад яе і ўтварылі Полацкую губэрню.

На ўсім абшары беларускай тэтыторыі далучанай у 1772 гаду, з жыхарствам ў ліку 1.360.000 душ, адукацыя маладзежы знаходзілася ў руках каталіцкага духавенства. Галоўна працавалі на гэтым полі езуіты. У Полацку, Вітабску, Оршы, Магілеве, Дзьвінску і Мсціслаўлю езуіты мелі вялікія манастыры (кляштары) і пры іх утрымлівалі свае калегіі, ў якіх шляхоцкая моладзь атрымлівала асьвету.

Поўная езуіцкая акадэмія, згодна статуту 1599 году, распадаляся на два аддзелы: малодшы (studia inferiora) і старшы (studia superiora).*)

У малодшым аддзеле, паводле статуту, выкладаньне граматыкі, старасьвецскіх моваў (лацінскай і грэцкай), становіла ў езуітаў пачатковы, выход-

*) Von Raumer. Geschichte der Padagogik III. I. 262 285.

ны пункт навучаньня, а рэторыка была апошняй стадзіяй навукі. Усе іншыя навукі ўходзячыя цяпер у праграмы сярэдніх школ, як: родная мова, геаграфія, гісторыя, арытмэтыка, новыя мовы, займалі ў езуіцкіх школах XVII і першай палавіне XVIII ст. больш чым другараднае мейсца, і на выкладаньне іх было адведзена вельмі мала часу,

Курс старшага аддзелу, паводле статуту 1599 году, павінен быў трываць два або тры гады. Гэты гады пасьвячоны былі навучаньню філасофіі, маралі і матэматыкі

Да гэтых двох аддзелаў у некаторых езуіцкіх школах дадаваўся трэцьці, ў які паступалі найбольш здольныя з акончыўшых курс старшага аддзелу. Тры гады моладзь, у гэтым арошнім аддзеле, студзьявала сьвятое пісаньне, гэбрайскую мову, багаслоўства і казуістыку, пад каторай разумелі збор правілаў датыкаючых царкоўнай адправы і выпаўненьня пастырскіх павіннасьцяў.

У 1772 гаду былі толькі дзьве поўныя езуіцкія акадэміі на беларускай тэрыторыі далучанай да Расіі: ў Полацку і Вітабску. У Полацку, акром таго, быў асобны багаслаўскі факултэт. Усе іншыя езуіцкія школы былі пяціклясовымі, акром Мсціслаўскай, дзе меліся толькі першыя тры клясы *).

У апісываны намі час у езуіцкіх школах, па даўнаму, мела перавагу лацінская мова, мова багаслужэньня каталіцкага касьцёлу, мова вульгаты,мова, на якой езуіты знасіліся з Рымам. Для езуітаў лацінская мова мела значэньне жывой, дзеля гэтага навучаньне лацінскай мовы даведзена было ня толькі да свабоднага разуменьня клясычных аўтараў,але і да ўменьня валадаць гэтай мовай ў размове і пісаньні.

Грэцкая мова, ў другой палавіне XVIII, наперакор статуту 1599 г., не выкладалася ў Беларусі. Замест грэцкай мовы заведзена была матэматыка, прырода, географія, гісторыя, родная мова (значэньне роднай мовы нададзена было мове нязначнай меншасьці жыхарства Беларусі, мове польскай), акром таго выкладалі мэханіку тэорэтычную і практычную, будаўнічую ўмеласьць, архітэктуру цывільную і вайсковую, балістыку і піротэхніку. На навучаньне ўсіх гэтых навук было замала часу і таму праходзіліся яны вельмі павярхоўна, што не спрыяла падняцьцю умысловай роўні вучняў **). Але пры гэтым трэба адмеціць, што курс езуіцкіх акадэмій ў Беларусі ня быў ніжэйшым ад курсу такіх жа академій у Італіі і Нямеччыне.

Рэлігійна—маральнае развіцьце вучняў, у духу вымаганьняў р.-каталіцкай царкві, станавіла адно з важнейшых заданьняў езуіцкага выхаваньня. Само таварыства езуітаў устаноўлена было акурат дзеля таго каб падтрымаць каталіцкую царкву, каб адваяваць для яе тыя краіны, якія яна утраціла ў XVI ст. і змагацца з другімі веравызнаньнямі. Але езуіты далёкі былі ад мысьлі прыдаць школьнаму выкладаньню Закону Божага значэньне адзінага, ці нат найбольш істотнага спосабу да дасьціжэньня намечанай імі цэлі. На выкладаньне веры ў езуіцкіх школах зужывалася толькі па аднэй гадзіне ў тыдзень, ды звыж гэтага поўгадзіны, ў нядзельныя і сьвяточныя дні, пасьвячалі на тлумачэньне евангельля. Рэлігійна-маральны ўплыў на вучняў ў езуіцкіх школах дасьцігаўся іншымі шляхамі. Больш за ўсё мела ўплыву тое акружаньне, сярод якога праходзіла жыцьцё вучня ў езуіцкіх школах. Перш за ўсё, як-бы ня быў вялікі лік вучыцялёў у школе, ўсе яны безпярэчна выпаўнялі волю зьверхніка ўстановы і павінны былі уплываць на вучняў саўсім згодна У гэтых школах не магло быць здарэньня, каб вучыцялі трымаліся

*) Сапуновъ. Истор зап. 75 летія Витебск. гімназіі 1884 г.
**) Собраніе матеріаловъ для исторіи просвѣщ. въ Россіи Т. I № 29.

розных поглядаў. Пры гэткім згодным ўплыве па вучняў, з боку ўсіх вучыцялёў, пануючыя ў школе погляды павінны былі крэпка западаць у душу вучняў і глыбока ў ей ўкараняцца. З другой стараны кожды з вучыцялёў, павінен быў карыстацца кождым здарэньнем, каб ўкараняць погляды, якія лічыліся ў данны час найболей адпаведнымі патрэбам таварыства і духу часу. Калі да сказанага дадаць яшчэ, што багатыя езуіцкія бібліотэкі вельмі добра былі падабраны, што вучні заўсёды знаходзіліся пад іх доглядам, што езуіты назвычайна ўмелі ўладжываць розныя цэрамоніялы, якія не маглі не рабіць на душы вучняў ўплыву, то будзе зразумела, што паступіўшаму ў езуіцкія школы лішне цяжка было ня выйсьці з іх пранікнутым тымі поглядамі, якія хацелі ўкараніць ў душы вучняў сваіх езуіты.

Акром езуітаў утрымлівалі школы, з курсам сярэдніх, піяры і дамінікане. Піяры (societas scholarum piarum) першапачаткова сьцежылі адну мэту —вучыць дзяцей, асабліва бездаглядных і сірот, першых пачаткаў чытаньня, пісьма і лічэньня. Пазьней, ў XVII ст., калі школы піяраў пашырыліся,—іх праграма была павялічана. Піяры ўвялі ў свае школы пачаткі лаціны і, на перакор езуітам, родную мову. Разам з гэтым, замест бездаглядных дзяцей, вучылі дзяцей багатых бацькоў. У палавіне XVIII ст. у праграму піярскіх школ унесены былі і навукі рэальнага характару. Ў палавіне XVIII ст. у Вітабску былі ўжо піяры; хто і калі заснаваў іх там—невядома. Не глядзя на тое, што тут была езуіцкая калегія, піяры знайшлі ў Вітабску вучняў для сваей школы ў якой вучыліся дзеці шляхты. У гэтай школе выкладаліся: матэматыка, гісторыя, філасофія, мэтафізыка і красамоўства. Пад назовай роднай мовы і тут выкладалася мова польская *).

Дамінікане ўтрымлівалі: гімназыю ў Забельлі (Дрысенск. пав.). Але гэта гімназыя, паўстаўшая ў 1716 гаду, на кошт фаміліі Шчытоў, да 1772 году яшчэ ня здолела разьвіцца **) і складалася з двох-трох клясаў. Акром гэтай гімназыі дамінікане мелі школу пры Дудакавецкім манастыры (Магілеўск. губ.). Аб гэтай школе вядома толькі тое, што ў ей вучылі лацінскай, польскай, францускай і нямецкай моваў ***).

Васільяне гэтак сама мелі некалькі сваіх школ, (адну з іх у Полацку, дзе была уніякая архіепіскопія), што відаць з запіскі уніяцкага архібіскупа Смогоржэўскага, пададзенай на імя губэрнатара Крэчэтнікава. У гэтай запісцы архібіскуп лічыць, што васільяне ня ўступаюць учонасьцю другім мніхам і што ім-то і належалабы вучыць у школах краю, далучанага да Расіі. Ен ручаецца за сваіх манахаў, што яны здольны да гэтай работы і што з карысьцю навучаюць у розных школах (даложан сьпісак гэтых школаў, ***).

Што да ніжэйшых школ, то ў Полацкай губэрні было іх 7 з 856 вучнямі,а ў Магілеўскай 32 школы з 956 вучнямі.

Аб курсе праходжаным у ніжэйшых школах дае паняцьце даклад Суражскага гараднічага ад 30 сьнежня 1783 году: „У школе 16 мяшчанскіх дзяцей. Узрост ад 6 да 16 гадоў. Вучацца польскіх літар, чытаюць псалтыр, пішуць па руску і па польску на паперы з лінейкамі і бяз лінеяк“. У Вяліжы вучыліся чытаць і пісаць па польску і па руску, чытаць скорапіснае пісьмо (значэ самі пісалі уставам, пісаць пісьмы а також арытмэтыкі. У 1784 г. у тэй-жа школе вучыліся і чытаць па лацінску. У Невелі вучняў было 36. Вучыліся літар, чытаць часаслоў, псалтыр, пісаць па руску.

---

*) Сапуновъ. Истор. зап. 75 лѣтія Витебск, гімназы.

**) Справа папячыц. Виленск уч Округа 129, № 143.

***) Коялович. Исторія возсоединенія зап.-рус. уніятовъ старых времен СПБ. 1873 стр 186

За два гады,—пасьля далучэньня да Расіі Беларусі,—ў 1774 гаду, ўсе істнаваўшыя пры каталіцкіх манастырох школы былі зацьверджаны расійскім урадам, пад імем „беларускіх“. Але зацьвердзіўшы па істоце сваей лаціна-польскія школы расійскі урад стаў клапаціцца аб тым каб завясьці школы расійскія. У 1779 гаду, за сем гадоў, пасьля далучэньня усходняй часьці Беларусі да Расіі, царыца Кацярына імянным рэскрыптам—загадала Полацкаму і Магілеўскаму генерал-губэрнатару Пассэку ўстроіць народныя расійскія школы ў Беларусі, спярша хоць у губэрнскіх і значнейшых гарадох, на кошт гарадзкіх дум. Устаноўлена была асобная камісыя, якая ў 1788 гаду пастанавіла аткрыць на першы раз ў Беларусі дзьве расійскія школы ў Полацку і Магілеве. Школы былі адкрыты: у Магілеве 15 марца 1789 году, а ў Полацку 15 красавіка таго-ж году. Спусьціўшы два гады, пасьля адкрыцьця галоўных—Полацкай і Магілеўскай—школаў, адкрыты былі яшчэ пяць першых малых расійскіх школаў: ў Оршы, Копысю, Мсціслаўлі, Чэрыкаве і Чаўсах. У 1794 г. адкрыта была чатырохклясовая расійская школа ў Вітабску. Найбольш непадатлівым горадам у справе устройства ў ім расійскай школы аказаўся Люцын. На загад адчыныць расійскую школу вось што пісаў Люцынскі Магістрат: „ніякіх мяшчанскіх дзяцей да навучаньня ў веданьні магістрату няма, а якія перадтым былі, то ў розныя месцы параздаваны ў навуку, ды й цяпер хоць можна было б сыскаць такіх, якія здольны былі-бы да навукі, толькі бацькі іх нямогуць наймаць вучыцялёў, а магістрату несчага наймаць“ *).

Характэрна, што далучаныя да Расіі беларускія землі, лічыліся нязвычайна асьвечанымі якімі, ў параўнаньні, і зараўды былі апынуўшыся у складзе тагочаснай Расіі. Царыца Кацярына ў часе сваей падарожы, ў 1780 г.—з Пецярбурга, праз Пскоў і Полацак у Магілеў і адтуль праз Смаленск і Ноўгарад—ня знашла саўсім школ у павятовых гарадох і нават ў губэрнскім горадзе Пскове **).

У 1773 гаду сталіся падзеі меўшыя ўплыў на езуіцкія школы. Як вядома ў гэтым гаду папеж Клім XIV выдаў брэвэ, якім на заўсёды касаваў таварыства езуітаў. Царыца Кацярына, за помач езуітаў давясьці народ да прысягі на вернасьць Расіі, пазволіла далей істнаваць езуітам у межах Расіі, пасьля скасаваньня іх папежам. На гэту весьць пачалі сьцякацца з усіх канцоў Эўропы езуіты на Беларусь, між імі многа выдатных вучоных. Мясцовы езуіцкі элемэнт, які перадтым рэкрутаваўся толькі з радоў шляхты, развадыўся ў новапрыбылым элемэнце, што ў значнай меры з аднэй стараны падняло інтэлектуальную роўную езуітаў, а з другой стараны значна аслабіла рутыну. Новапрыбыўшыя езуіты, між іншым, ўнясьлі мысьль выкладаць у школах, як родную мову, мову мясцовага жыхарства а знача беларускую. Магчыма, што гэта быў сярэдні выхад з палажэньня, бо расійскі урад дамагаўся, каб ва ўсіх езуіцкіх школах польская мова была заступлена расійскай. Так ці іначай езуіты пачалі самі цікавіцца народнай мовай і цікавіць ею сваіх вучняў. У вынiку мову беларускую сталі заводзіць ў катэхізацыі, друкаваць па беларуску асобныя лістоўкі з рэлігійнымі песьнямі і, ўрэшце, зложылі і выдалі кантычку беларускую. З гэтага пэрыоду, ламаньняся езуіцкай мысьлі вышаў з езуіцкіх школ беларускі пісьменьнік—адраджэнец—Ян Баршчэўскі.

---

*) Собр. матер. для истор. просвѣщ. въ Россіі Т. І. 886—895.
**) Янковіч-де-Миріево П. Д. Воронова стр. 88.

ВАСІЛЬ ЛЮЦЬВЯГ.

# ДУДА

## (Гісторыка-абычаёвы нарыс).

Дуда—гэта не плаклівая старэцкая ліра, ці як мясцамі называюць яе лера, на каторай выігрываюцца жаласьліва-набожныя канты, прыкладам: „Прыповесць аб багачэю і Лазару,“ „Аб сьв. Ягорью—Рыцару“, „ Аляксею чалавеку божым“ і г. п. Дуда—гэта і ня гусьлі самаграі, якія ўтораць, а прынамні ўторылі, каліськці, геройскім эпопэям, гістарычным сьпевам, слаўленьню і вялічаньню жывых, знатных.

Як запамятае гісторыя дуда фігуруе ў беларусоў і фігуруе як бязклопатная „весялуха“, як іструмант наігрываючый да вясёлага танцу. Для нашых пра-прадзедаў дуда і танец былі сынонімамі. Дарэмна, начытаўшыся візантыцкіх посьнікаў граміла яе, ўвесь час, нашае духавенства, пачынаючы ад Кірылы Тураўскага, які з усім сваім красамоўствам выступае супроць дуды, а такжа: „плясанія на піру і на сьвадзьбах і на ігрышчах і ў павечарніцах і на трапезах і на вуліцах“*) Андак таемную чароўную сілу дуды разумела само, громячае яе, духавенства. У Нестараўскай летапісі, пад 1014 гадам, апісана відзежа, вялікага посьніка і пустэльніка, старца Ісаакія, якому раз, кусячы яго, зьявіліся хітрыя бесы з музыкальнымі інструмантамі.

— „Вазьмеце дуду, бубны і гусьлі, і ўдарайце; хай нам Ісаакій станцуе“ — скамандаваў старшы чорт,—„і ўдарылі ў дуду, ў гусьлі і бубны сталі іграць“. І справядлівы старац, якога чэрці не маглі дагэтуль ніяк спакусіць нічым, ні багацьцем, ні ядой, ні пітой, ні жаночай „прэлесью“, пачуўшы дуду ня ўстояў, хоць і ведаў, што граньне гэта толькі спакуса ад беса нячыстага. Пусьціўся српавядлівы ў танец пад дуду: „і змарыўшы яго пакінулі ледзь жывога і пашлі насьмяяўшыся над ім“.

Не дармож пяецца ў народнай песьні:

А бяз скрыпкі, бяз дуды,
Ходзяць ногі не туды;
А як дуданьку пачуюць,
Самі ножанькі танцуюць!

Праўда, беларуская прыказка: „ І Богу сьвечка і чорту дуда“ паказвае, што цешыць яна і чорта, але з другой стараны народныя легенды сьведчаць, што дуда і дудар маюць ўладу нават над чортам.

Як апавядае Шпілеўскі („Мозырщына“, ў Архіве историч. и практич. свѣд. выд. Калачевым 1859 г. стр. 2—5), ў палуднёвай часьці Меншчыны вераць, у знахараў-ваўкалакаў якія могуць абяртаць людзей у ваўкоў і перакідаць назад у людзей; знахары гэты людзі ня простыя, становяць вышэйшую, як бытцам касту паміж селянаў. У склад гэтай касты ўходзяць: пастыры, млынары і дудары. У народных казках ёсьць цэлы цыкль апавяданьняў аб тым як дудар сваей ігрой заваражываў нападаючых зьвяроў, і ня толькі звычайнага чорта, але навет самога Дабрахота (Лясавіка).

Пакінуўшы ў старане легенды-басьні і кніжна-багаслоўскія мудраваньня трэба засьведчыць, што у нашых дзядоў і прадзядаў дуда, як музыкальны інструмат, цешылася вялікай пашанай, асабліва ў іх маладыя годы. Ду-

*) Памятники россійской словесности XII в. стр. 94.

дар быў самым пажаданым госьцям ў прыгодны час да забавы, і самай па-чэстнай асобай на ігрышчах і вясельлях. Дудар замяняў ў маладой-сіраты на яе вясельлі навет бацькоў і, згодна вясельнаму рытуалу, адпраўляў маладых ў вясельную пасьцелю, пры гэтым, паміж дударом і маладой сьпяваўся ніжэйпісаны двосьпеў:

*Маладая*:

Дударaньку, гаспадарaньку!
Ды ўжо-ж мяне зуручылі.

*Дудар*:

Ня бойся нябога,
Ня будзе нічога!
Я за табою,
Дуль! дуль! з дудую...

Скрыпка і дуда становяць у Беларусі неабходну прыналежнасьць нагул ўсіх вясельных цэрамоньяяў: яны сустрачаюць і праводзяць маладога і маладую да самых дзьвярэй царквы і ад царквы да дому новажэнцаў. Дудар, ці скрыпач, седзячы на павозцы за маладымі, ад вянца дудзіць „прашчальныя“ і „стрэчныя“ песьні *). Паводле старасьвецкай беларускай прыказкі не бывае вясельля без дуды: „што за вясельле без дуды.“

Ня толькі на вясельлі, на хрэзьбінах, але і на памінках, пасьля належнага аплаканьня і абрадовага „адтрызнаваньня“ на магілцы прынесенымі стравамі, запіўшы сьлязу чаркай водкі, беларус любіў паслухаць сваю „весялуху“, супроць чаго дужа нават востра выступала духавенства, аб чым сьведчыць адзін з артыкулаў „Стоглава“: „На конадні Тройцы (Троецкія дзяды) сходзяцца мужы і жоны на жальніках і плачуць над магіламі з вялікім крычаньнем і калі пачнуць іграць скамарохі **) і гудцы і перагуднікі, яныж, перастаўшы плакаць, пачнуць скакаць і танцаваць і ў далоні біць і шатанінскія песьні пяяць.

Падобна памінкам дудары зьяўляліся неабходнымі учасьнікамі абрадовых сьвятаў, як, прыкладам, Купальля. У адным духоўным пасланьні з 1505 году чытаем: „у тую сьвятую ноч (наконадні Яна Хрысьціцеля) мала ня ўвесь горад замітушыцца і зашалее, бубнамі і дудамі (стар. слав. „сопели“) і гудзеньнем струнным, і ўсякімі непрыстойнымі гульнямі шатанінскімі, по-кляскамі і танцамі... стукаюць бубны, голас дудаў дудзіць і струны гудуць, жонам і дзеўкам скаканьне і паклясканьне і галовам іх ківаньне, і вуснам непрыстойны кліч і крык, ўсенячыстыя песьні, бесам прыемнае адбываецца, і хрыбтом іх віхляньне і нагам іх скаканьне і тупатаньне“ ***).

Ня дзіва, што пасьля гэтага ўсяго, ва ўсякой жыцьцёвай прыгодзе, калі нуда ды жуда апануе душу, шукаў беларус паехі ў дудара, каб разагнаць цяжкое настраеньне:

За тры капы селязьня прадала,
За капу дудара наняла:
Заграй, заграй, дударыку ў дуду,
Хай я ўжо сваё гора пазбуду.

---

*) Этнограф. сборн. выд. Имр. Георг. О-ва. 1853—1862, II стр. 190.

**) Гл. Насовіч, Словарь Слова „скамарох“, з чаго відаць, што скамарохамі называлі даўней ўсякага музыканта

***) Дополненіе к акт. истор. (Арх. Ком.) 1846—1875, I, 18.

Дуда цешыла і весяліла беларуса ў яго цяжкім жыцьці, пад няволяй палітычнай і эканамічнай, якая яго гнятла доўгі час на Бацькаўшчыне. Калі-ж беларус пакідаў родны край, ён і на чужыне цешыў сябе роднай музыкай:

Ці ня дудка мая,
Весялушка мая!
Весялі-ж ты мяне
На чужой старане.

Паўнату сямейнага шчасьця рысуе беларус сабе, калі ў сямьі маюцца тры браты—ратай, рамесьленік і дудар:

Былі ў бацькі тры сыны,
Усе тры Васілі:
Адзін поле арэ, другі лапці пляце,
Трэцьці сядзіць на каменю,
Дзяржыць дуду на раменю.

У культурную скарбніцу беларускага народу дудары ўлажылі значны ўклад, пакінуўшы нам у спадчыне тысячы розных прыпевак пад танцы, а такжа на тэмы бягучых падзей, ці жыцьцёвых праўд, на вялікі жаль, дагэтуль, нават у сотай часьці, яшчэ нікім не запісаных. А тым часам дуда ўжо на Беларусі становіцца музэальнай немаль рэдкасьцю, а прафэсіянальныя пяўцы-дудары даўно ўжо вымерлі. Яшчэ дзе-недзе, ў дударскіх семьях сёетое памятуюць, вось гэта апошняе і ляжыць на абавязку беларускіх адраджэнцаў уратаваць ад загібелі.

---

ПАГАШЧАНІН.

# Да шуканьня крыніц народнай творчасьці.

Чым сыціў сваю душу беларускі народ у часе доўгага і цёмнага ліхалецьця, званага прыгонам, калі ўсе, хто кідаў касу і саху адыходзілі ад яго назаўсёды; калі кожды, хто навучаўся, ня толькі граматы, але навет самай благой мовы понуючых станаў, ужо староніўся вёскі, і гаротнага мужыка вяскоўца. Можна сказаць, што на працягу апошніх 200 гадоў, беларусы ня былі народам, а становілі тубыльчую селянскую касту, ў якую новыя сілы зьнікуль не прыбывалі, а лепшыя, здатнейшыя, адыходзілі. Важную ролю іграла тут ня толькі безпраўнае палітычнае і бязвыходнае эканамічнае палажэньне сялянскай касты, але і псыхалёгія стыхійна панаваўшая. Усё што добрае, што прыгожае атрымала ў пануючых кляс званьне іх, пануючай, касты—szlachetny, szlachetnosć, wspaniały wspaniałosć і, наадварот, што брыдкае, благое насіла названьне: gminne, chłopskie prostackie. А найгорш, што сам наш гарапашнік паверыў у гэта, прымірыўся са сваім безпраўным палажэньнем, сваей стыднай беднасьцю і цемнатой і, ня бачучы з яго выхаду, пастараўся замкнуцца ў сабе, ў кругу такіх як ён сам „простых, людзей“ і простых, собскіх паняцьцяў. Пайшло доўгае жыцьцё ў замкнутай касьце.

Замкнутасьць і адарванасьць ад іншых клясаў з адней стараны спрыяла захаваньню таго, што сваё, што здабыта і асьвячона старынной, а з другога боку пабуджала да новай, кастовай творчасьці, якая да апошніх часаў не замірала.

Успамінаючы мае маладыя гады і акружаўшае мяне, ў той час, кіпучае і поўнае жыцьцё нашай вёскі, я пастараюся сваімі ўспамінамі падзяліцца, каб кінуць кроплю сваю да высьвятленьня пытаньня аб народнай творчасьці. За аснову я вазьму алрыўкі ўспамінаў вёскі Стары Пагост (Дзіс. пав.) і яе аколіц.

Найбольш чаканым, найгучней сьвяткаваным гадавым сьвятам—быў Вялікдзень, Сьвятое Вялічка. Прычым трэба адмеціць, што названьне гэтага сьвята разумелася ўсімі не як—Вялікі Дзень, а як—дзень вялічаньня, слаўленьня. Ад палавіны посту ўся вёска, ўся аколіца, ад старога да малога, дудзелі ўжо пад нос валачобныя, вялічальныя песьні, аж, здаецца, ад гэнага дудзеньня трымцела паветра. Але голасна, на ўсю волю, яшчэ гэтых песянь пяяць нельга: іх запяюць першага дня Вялічка, адвячоркам:

Добры малойцы валачомнічкі,
Сабраўшыся, зшыхаваўшыся—

найперш пад вакном, самага багатага ці самага шанаванага гаспадара ва ўсей вёсцы ці ваколіцы, а, пазьней, ў чарод, пад усімі вокнамі.

Гэтае-ж „зьбіраньнеся“ і „шыхаваньнеся“ добрых малойцаў валачомнічкаў, не такое простае, як гэта многім нашым шаноўным этнографам здавалася. Не дармо-ж хлапцы дый дзяўчаты, цэлае паўпосьце пад нос дудзелі напяваючы ў паўголас сабе. Не адно імі з тэксту рытуальнага, каноднага за гэты час перадумана, не адно дапазарытуальнага тэксту, далажана, перайначана, дапасавана да таго ці іншага, каго будуць вялічаць ды славіць. „Шыхаваньнеся“ і азначае сабраньне перад выхадам на слаўленьне, на якім намячаюцца гаспадары да каторых пойдуць славіць і прыймаюцца тэксты слаўленьня іх. Дармо думалі нашы этнографы, што тыя, да каго прыходзяць вялічаць аставаліся безучаснымі да тэксту вялічаньня.

Быў у аколіцах старык, па прозьвішчу „кажэ“ (праўдзівае яго прозьвішча—Сенкевіч), жыў ў засьценку Гірсах, за вярсту ад Пагоста. Старому было звыж 80 гадоў; жыў на паўтары валоках, а знача багата, сам адзін, як палец. Ен належаў да любіцеляў і знаўцоў слаўленьня. Кождую грамаду валачомцаў выслухаў седзячы пры адчыненым акне. Калі слаўленьнікі, прышлі падгатаваўшыся, з асобнымі ў яго чэсьць, на канцы сьпеву, штрофкамі, частаваў ўсіх чаркай гарэлкі, выносіў кружок другі каўбасы, ці сыр на закуску і дзесятак, другі яец механошаму ў карзінку. За асабліва ўдатнае слаўленьне запрашаў у хату, як гасьцей. Калі-ж прыходзілі такія, што чаўплі песьню без разуменьня яе, стары злаваўся і нават лаяўся. У Старым Пагосьце знаўцоў вялікоднага вялічаньня, паміж старых, было нямала да іх належаў Гродзь, Жураўскі, Васілеўскі, рыбак Лакотка, а найбольш пастыр Даніла. Вялічалі валачомнічкі „добры хлопчыкі“ ня толькі гаспадара з гаспадыняй, але і ўзрослых іх дзяцей—дачок і сыноў. За добрае вялічаньне валачомнікі ад дзяўчат на замужжы, даставалі часам па паясу і па ручніку, а паміж хлапцамі завязывалася няраз, праз вялічаньне, дажывотная дружба.

Рытуальная часьць вялічальнай песьні складалася са ўступу, ў якім гаварылася: Гаспадару, адкрый акно, адкрый акно, гляні на двор: на тваім дварэ стаіц шацёр навюсенькі, бялюсенькі (вяснавое неба), а ў тым шатрэ сам Бог сядзіць, перад Богам усе святцы (сонца і гвёзды). „Да гэтага аддзелу ўключалася часьць з апісаньнем адзежы і двара гаспадарскага, ў якой праглядалі ня раз пракавечныя рысы гэтай абрадовай песьні. Прыкладам:

А ці дома, дома сам пан гаспадар?
А хоць і дома ды не кажацца (не сядзіць пры акне),
Ен не кажацца, прыбіраецца,

Надзяе сьвіту, шоўкам шыту
Надзяе боты казловыя,
Боты казловы, шапка барброва!

А вось аб яго двары:

А Сымонаў двор на стаўпох стаіць;
На стаўпох стаіць на тачоненькіх.
А кругом маста пчолкі гудуць,
Пчолкі гудуць ў палёт ідуць.

Калі Сымонова „сьвіта шоўкам шыта“ „боты казловыя“ і „шапка бабровая“ пяецца для вялічаньня Сымона, то ў апісаньні яго двара, хто ведае, ці ня крыецца запраўды памяць аб дварох на палях стаячых з мастамі вядучымі „да кругога беражка, да жоўтага пяска“?

Вялічалныя песьні любяць раўняць гаспадара да краснага сонейка, а гаспадыню да сьветла месіка, а іх дзетак да частых гвёздачак. Але гэта ня правіла:

— Ай не ластавіца палётуе!
Сама гаспадыня то паходжуе...

Хочучых азнаёміцца бліжэй з усім багацьцем вялічальных зваротаў і сымвалаў, адсываю да этнографічных запісаў у Романова, Шэйна, Безсонова і другіх.

Другая часьць вялічаньня гаспадара складаецце з апісаньня яго ратайскіх работ. Тут часам поэтычнасьць абразоў даходзіць да назвычайнай красы, як, прыкладам размова жыта з гаспадаром:

— А хто ў полі рана пагукае?
— Ядраное жыта гаспадара кліча:
— Ня магу я, ня магу я ў полі стаяці,
У полі стаяці калосьсям махаці.
Толкі магу я, толькі магу я
У полі снапамі, ў гумне тарпамі,
Толькі магу я!

Пералічаюцца ў каляндарным парадку ўсе сьвятцы, якія дзейна працуюць у полі: „Сьвяты Мікола скот напасае, Сьвяты Ляксей сохі чэша, Сьвяты Пятро з дробным дажджом, Сьвяты Ільля з залатым сярпом“ і т. д.

У трэцяй, канцовай, часьці ўжо пяецца вялічаньне не рытуальнае. Тут можна ўзяць штрофкі з бягучага жыцьця, адзначыць выдатную рысу пана гаспадара, ці з яго паступкаў, ці дзейнасьці. Во гэта апошняя часьць і ўкладаецца валачомнікамі што году нанова і для кождага гаспадара, гаспадыні і іх узрослых дзяцей паасобна. Закончаньне вялічаньня гэтак сама можа быць больш або менш красамоўнае, але пераважна бывае стэрыотыповае.

Аб летніх, жніўных і дажынковых песьнях ня магу нічога сказаць, не прышлося ў свой час унікнуць у іх і выразумець.

Заўважу толькі адну характэрную для беларускай кабеты рысу, а гэта тое, што полючы гароды любяць кабеты жаласна галасіць і прычытываць. Адбываецца гэта як рэпэтыція, але нярэдка, пераняўшыся сваей жаласьлівай імпровызаціяй і, запраўды, наўзрыд прыплакне другая.

У старым Пагосьце, ў восень, калі наступалі цёмныя і доўгія вечары, яшчэ вечарніцы не пачыналіся, маладзеж вясковая, зьбіраючыся разам, што год, колектыўна, ўкладалі доўгую песьню-сатыру. У 1894 гаду тэмай такой песьні паслужыў чорны бык. Быка прывялі бытцам у Пагост, і, па нарадзе, пастанавілі яго зарэзаць і падзяліць. Кождая часьць быка даставалася камусь з гаспадароў характэрызуючы яго, прыкладам: „Рыдзіку почкі, каб вяліся бочкі, а Дубчонку рогі, каб знаў дарогі, а Даніле вочы, каб ня спаў у ночы" і г. д. Некаторым гаспадаром пасьвячаліся чатыры і навет восем штрофак, высуючых яго недастаткі. Гэткі верш што год перамяняўся колектыўным забраньнем на новы. Апавядалі і навет пеялі дасьціпныя адрыўкі з даўнейшага аднаго такога-ж сатырыстычнага верша, тэмай да каторага была ўзята Бяда, якая прышла да Пагоста і схавалася пад мастом. Пачынаўся гэты верш славамі: „Сядзіць Бяда пад мастом, едуць людзі з хварастом; тут Бяда загуляла, ўсім калёсы паламала. Быў там Апанас, той бядзе у морду раз! Быў там і Пятрок, той у морду раз пяток!" і г. д. Кончылася справа тым, што выгнаная з пад маста Бяда забралася ў вёску, тут яе ганялі бабы і дзеўкі, але бяз скутку.

Найцікавейшы час бываў пачынаючы ад першага дня Калядаў да Вадохрышча. Угэтым часе, ад захаду сонца, пачыняліся сьвятья вечары ў якія нельга класьціся спаць да „пятухоў", а знача ад 4—5 вечара да 12-ай ночы. У дадатку звычай вымагаў, каб у гэты вечары баяць басьні. Тут выступалі на сцэну лепшыя гутарнікі і пачыналіся безканечныя казкі і легенды, апавяданьня традыцыйныя і нанова здуманыя, ды прыкрашаныя. У тыя хаты, дзе бывалі добрыя, красамоўныя, гутарнікі народу набівалася ушчэрць, ад старых да малых. Лепшым гутарнікам ў вёсцы лічыўся Міхалка гарбар, пасьля яго Сьцёпка бондар, чалавек неакелзанай фантазыі, які ўмеў давясьці да сьлёз сьмехам і да гістэрычнага сьмеху апавядаючы стращное. Рэпэртуар касьзак быў вечна новы і безканечна багаты. Папаўнялі гэты рэпэртуар валачомныя гутарнікі, якіх ў мае часы, было ня мала паміж перахожых убогіх, каторыя прыходзілі часам аж пад Бабінавіч (Магілеўск. губ.

Акром гэтага, час ад часу, з прычыны кождага значнейшага здарэньня ўкладаліся сатыры вершам; навет з прычыны нязначнага здарэньня. Прыкладам: у Новы Пагост прыязджаў новы вучыцель, малады хлапец. Дарогай папасываў пры Стара-Пагоскай карчме, выехаў ўжо зьмеркам і, па дарозе, згубіў клунак з бялізнай. Гэта пабудзіла некага злажыць сатыру, даволі дасьціпную, якая пачыналася: „Ехаў Абрамчык (прозьвішча вучыцеля быў родам са Случчыны) ў Пагоста, пілнуючы конскага хвоста"... Гэткія вершы-сатыры скора тварыліся, скора і забываліся, а іх месца заступалі новыя падзеі і новыя сатыры. Рэдкія з гэткіх сэзонных вершаў утрымліваліся ў памяці некалькі гадоў; гэта залежала ад меткасьці слова і ад значнасьці падзей. Вершы на звальненьне ад паншчыны, ў мае яшчэ часы, пераказваліся з памяці, а навет перапісваліся. Да гэткіх належалі „Гутарка Данілы са Сьцяпанам", а такжа, іншага харатару „Страшны суд", „Панскае ігрышча". Асаблівай увагай цешныўся: „Страшны Суд", які дапаўняўся і перарабляўся; ўстаўляліся ў яго штрофкі аб акалічных хлапцах, дзяўчатах, гаспадарох і гаспадынях з абазначаньнем ім кар на тым сьвеце. Пачынаўся верш так: „Паслухайця толькі людзі, што на страшным судзе! будзе кары страшны за грахі, за хохаткі ды са сьмехі"...

Акром сьвецкай песьні, сатыры, казкі і паэмату істнавала цэлая літэратура духоўная, якая пераказвалася з вусн у вусны, або расьпявалася. Спэцыялістамі ад гэтай літэратуры былі асобныя „старцы" жабракі, якія хадзілі з музыкальным інструмантам лірай, скрыпкай, або гармонікай. Забраўшыся ў

вёску такі старац ня выходзіў, пакуль не перасьпяваў усіх сваіх песень, слухаць якія зьбіраліся пераважна пабожныя вясковыя кабеты. Старац гасьціў у вёсцы ад 3 дзён да 2 тыдняў, залежна ад яго рэпэртуару.

Словам, яшчэ гадоў 30 назад, вусная беларуская літэратура была нечым саўсім жывым, што расло і кусьцілася. Літэратура гэта абслужвала духовыя вымогі селян, і, падтрымліваючы традыцыі, давала сокі новай творчасьці. Істнаваньнем гэтай літэратуры толькі і можна вытлумачыць тое, што наш народ мог сам ў сабе замкнуцца, і, жывучы сваім асобным жыцьцём, перахавацца дагэтуль.

---

С. П.

# Важнейшыя працы аб беларусах у польскай мове.

Пасьля расійцаў, па ліку прац пасьвячоных баларусаведаньню, другое мейсца займае польская літэратура. Галоўны ўклад у гэту літэратуру, падобна як і ў расійскую, зроблен самімі беларусамі, або ураджэнцамі Беларусі. Да гэткіх імён тут належаць: Ян. Баршчэўскі; Быкоўскі-Якса; Чарга; Глебоўскі; Храп (авіцкі); Чарноўская; Чэчот Ян; Даніловіч Ігн.; Янкоўскі Юры; Ярошэвіч; Ельскі Аляксандар (аўтор некалькіх брашур у беларускай мове); Евлашэўскі; Галубоўскі; Карловіч; Кіркор; Кліх; Кандраговіч (Сыракомля) які пісаў шмат вершаў па беларуску; Коротынскі (вучань Сыракомлі, селянскі сын, якога праўдзівае прозьвішча Пятрок Кароткі); Крашэўскі; Крыньскі; Ляхніцкі; Лелевэль; Лагуна; Марцінкевіч; Мошынскі; Нарбут; Ожэшкова; Падбярэзскі; Ромэр М.; Рыпінскі А; Шырлоўскі; Шпілеўскі; Тышкевіч Эўст.; Васілеўскі Л; Вярыга; Вішнеўскі М.; Віладковіч; Зенкевіч Р.; Зубовіч. Адзіная паважнейшая праца зробленая не ўраджэнцам Беларусі зьяўляецца „Lud Białoruski“ Міхала Фэдэроўскага, рэшта чужых прац—усё дробныя заметкі, ня маючыя вялікай вагі.

Блізка ўсе капітальныя працы належаць, па часу іх апрацаваньня, да першай палавіны XIX ст. і запачаткованы ў кругах віленскага унівэрсытэту, як-то працы— Чэчота Яна, Ігната Даніловіча, Галубоўскага, Ярошэўскага, Кіркора, Кондратовіча Людв., Коротынскага, Крашэўскага, Ляхніцкага, Лелевэля, Лагуна, Марцінкевіча, Набрута, Пабрэзскага, Рыпінскага, Вішнеўскага Міхала, Зенкевіча. Паўсталі ўсе гэты працы пераважна між 1820 і 1860 г.г. У кругу гэтых вучоных кідаліся, даволі нясьмелыя, мысьлі аб самаістасьці культурнай і палітычнай беларускага народу. Да пераконаных незалежнікаў, здаецца, належаў Ігнат Даніловіч, Кіркор, а часьцю можа быць і Ян Чэчот. У кождым разе пэрыод віленскага унівэрсытэту даў шмат дасьледаваньняў цэнных для беларускай культуры, а магчыма палажыў і першыя асновы незалежніцкім імкненьням. У ніжэй пададзеным выказе важнейшых прац аб беларусі, ў польскай мове, сьвядомы беларускі адраджэнец здолее шмат чаго пачэрпнуць асабліва з дзедзіны гісторыі, філёлёгіі і этнографіі беларускай. Працы аб Беларусі ў польскай мове, маюць яшчэ тую карысьць для нас, што яны ўзіраюцца на беларускую справу з іншага пункту гледжаньня, як працы ў расійскай мове; чым, стаčовячы у многіх здарэньнях контраст расійскім працам, прычыняюцца да выясьненьня праўды. І, наадварот, той-жа контрольны характар маюць расійскія працы аб Беларусі ў стасунку да польскіх.

